● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

24 кастрычніка 1998 г. субота, № 210 (23561)

# ЗВЯЗДА



## АСНОЎНЫ ПРЫНЦЫП СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ З РАСІЙСКІМІ РЭГІЁНАМІ — УЗАЕМАВЫГАДНАСЦЬ

**Пашырыць эканамічныя кантакты — такая асноўная мэта візіту афіцыйнай дэлегацыі Беларусі на чале з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам у Кемераўскую вобласць.**

Візіт пачаўся з наведвання месцаў, дарагіх сэрцу кожнага жыхара гэтага расійскага рэгіёна. 23 кастрычніка кіраўнік беларускай дзяржавы і губернатар Кемераўскай вобласці Аман Тулееў усклалі кветкі да капліцы «Усіх тужлівых радасць» — помніка загінуўшым шахцёрам. Вянкі ад беларускага прэзідэнта ляглі таксама да Вечнага агню ля помніка героям-кузбасаўцам, якія загінулі ў гады мінулай вайны. Пабываў Аляксандр Лукашэнка і ў мясцовым музеі ваеннай гісторыі.

Затым кіраўнік беларускай дзяржавы наведаў аўтабазу і разрэз «Кедраўскі».

У другой палове дня ў мясцовым музычным тэатры адбылася сустрэча кіраўніка беларускай дзяржавы з кіраўнікамі вобласці, прадстаўнікамі дзелавых колаў. Гаворачы аб магчымых сферах супрацоўніцтва, Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз назваў прадукцыю, у якой зацікаўлена Беларусь: вугаль, кокс, арганічныя і хімічныя злучэнні, вырабы машынабудаўнічых прадпрыемстваў. А наша рэспубліка, у сваю чаргу, можа задавальняць патрэбнасці сібіракоў у сельгастэхніцы, у таварах лёгкай прамысловасці. Ён адзначыў, што сёння 70 працэнтаў беларускага экспарту прыпадае на Расію.

Гаворачы аб выніках сельскагаспадарчага года, Аляксандр Лукашэнка з упэўненасцю заявіў: «Мы зможам уласнымі прадуктамі накарміць народ». Ён адзначыў, што ў гэтым годзе ў Беларусі сабрана больш за 5 мільёнаў тон збожжа. Праўда, частку яго ўсё роўна прыйдзецца купляць за мяжой, у першую чаргу, у Расіі. Але ўсё ж харчовую бяспеку Беларусі аграрны сектар змог забяспечыць.

У той жа дзень Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай дыяспары.

А галоўным вынікам візіту стала падпісанне пагаднення паміж урадам Беларусі і адміністрацыяй Кемераўскай вобласці аб асноўных прынцыпах супрацоўніцтва.

Падводзячы на прэс-канферэнцыі вынікі знаходжання ў гэтым расійскім рэгіёне, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ён задаволены вынікамі сустрэч і перагавораў. Ужо ў аэрапорце адбылася заключная гутарка сам-насам Аляксандра Лукашэнкі і Амана Тулеева, пасля чаго беларуская дэлегацыя вылецела на радзіму.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

*Парламенцкі дзённік*

## АД СПРАВАЗДАЧЫ ЎРАДА ДА СЛУХАННЯЎ ПА ПРАБЛЕМАХ ВЁСКІ

57 з 62 членаў Савета Рэспублікі і 85 са 108 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў зарэгістравалася ўчора на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў наведвання парламентарыямі бягучай сесіі.

Цікавасць народных абраннікаў была выклікана тым, што 23 кастрычніка быў днём адказаў членаў Савета Міністраў на пытанні дэпутацкага корпуса. І хаця парадак прадугледжвае дыялог у выглядзе пытанняў і адказаў, асноўная частка пасяджэння па сутнасці была справаздачай урада адносна сітуацыі ў эканоміцы краіны ў цэлым. Прычым не было такой праблемы дзяржаўнага ўзроўню, на аналізе якой не спыніўся б прэм'ер-міністр Сяргей Лінг.

Ён паведаміў, што за мінулыя дзевяць месяцаў асноўныя прагнозныя паказчыкі выкананы. У пацвярджэнне гэтых слоў прэм'ер прывёў лічбы, згодна з якімі валавы ўнутраны прадукт павялічыўся на 10 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, рост прамысловай прадукцыі — на 10,8 працэнта, інвестыцыі ў асноўны капітал — на 25,3, выпуск тавараў народнага спажывання — на 18,6 працэнта. Адзінае, што моцна засмучае ўрад, дык гэта сітуацыя ў аграрным сектары. Замест запланаванага росту на 4-5 працэнтаў, тут зафіксавана толькі павелічэнне на 0,1 працэнта. Асабліва крытычная сітуацыя складваецца ў раслінаводстве. «Відавочна, што на прагнозныя паказчыкі сёлета мы ўжо не выйдзем у гэтай галіне», — зазначыў С. Лінг.

Складанай застаецца сітуацыя ў знешнім гандлі. Калі экспарт беларускіх тавараў павысіўся на 7 працэнтаў, то імпарт — на 9 працэнтаў. І гэта пры тым, што Беларусь мэтанакіравана працуе над праграмай імпартазамяшчэння. Аднак скараціць адмоўнае сальда знешнегандлёвага балансу аніяк не ўдаецца.

Ні ўрад, ні парламент падчас размовы не маглі абысці тэму расійскага крызісу і пераносу яго на беларускую рэчаіснасць. Паводле слоў С. Лінга, нягледзячы на тое, што беларускі ўрад своечасова вызначыў асноўную небяспеку з усходу, пагасіць полымя, якое перакінулася на Беларусь, не ўдаецца да гэтага часу. Але рост цэн і няспынны махавік інфляцыі — яшчэ не ўсе праблемы. Вялікую заклапочанасць у Савеце Міністраў выклікае тое, што з-за калапсу фінансавай сістэмы ў Расіі беларускія экспарцёры страцілі магчымасць своечасовых разлікаў за сваю прадукцыю. Такім чынам, рэзка зніжаецца паток экспарту з самым буйным знешнегандлёвым партнёрам Беларусі, па многіх накірунках экспарт упаў у некалькі разоў. Беларускія гандляры пакідаюць расійскі рынак, хаця С. Лінг рашуча асудзіў такія дзеянні. «Зараз самы зручны момант, каб зацвердзіцца ў Расіі і пашырыць рынкі збыту беларускіх тавараў», — сказаў ён. Прэм'ер таксама параіў беларусам зацягнуць паясы, зменшыць спажыванне ўнутры краіны прамысловай прадукцыі, якая мае попыт за мяжой, і накіраваць на экспарт больш тавараў, чым раней. У якасці прыкладаў ён назваў прадукцыю вытворчасці «Мілавіцы», тэлевізары, халадзільнікі і інш.

Што да інфляцыі, то, мабыць, не трэба прыводзіць лічбы ўрада, згодна з якімі яна склала ў мінулым месяцы 17,6 працэнта, а за два тыдні бягучага — 5,6 працэнта, — кожны з нас гэта адчуў на ўласнай кішэні. Але С. Лінг не адмаўляе і ўнутраных прычын інфляцыі, якія, справакаваныя расійскім крызісам, моцна ўскладнілі эканамічнае становішча краіны.

С. Лінг падкрэсліў, што на сённяшні дзень для ўрада адной з галоўных задач застаецца стрымліванне інфляцыі і ўстанаўленне адзінага курса беларускага рубля. Дзеля гэтага плануецца скарачэнне аб'ёмаў беларускай валюты за межамі краіны. Як вядома, не вельмі даўно памер рублёвай масы, якая гуляла за мяжой, перавышаў 1,6 трлн. Нават тыдні два таму па-за межамі Беларусі знаходзілася 370 млрд. рублёў. Урад лічыць магчымым знізіць гэтую лічбу да 100 млрд. Пасля гэтага Савет Міністраў мае намер стабілізаваць курс шляхам валютных інтэрвенцый Нацыянальнага банка. «Таму сёння нам важна збалансаваць тэмпы інфляцыі і дэвальвацыі для таго, каб не ствараць паніку на валютным рынку. Мы будзем паступова набліжацца да ўстанаўлення курса, які б адпавядаў попыту і прапанаванню. Але, на жаль, я лічу, што ў гэтым годзе належных умоў стварыць не ўдасца, таму прыйдзецца працаваць над гэтай задачай на працягу наступнага года», — падкрэсліў С. Лінг.

Але, бадай, самым актуальным звяном справаздачы ўрада быў усё ж стан спраў у аграпрамысловым сектары. Гэтая тэма нават вылілася ў дыскусію, і яе абмеркаванне ў некаторых выпадках нагадвала парламенцкія слуханні па праблемах вёскі. Прынамсі, у зале прагучала прапанова правесці на цяперашняй сесіі слуханні на гэтую тэму.

Парламентарыі, асабліва дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, сярод якіх значная частка — кіраўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, не маглі раўнадушна ўспрыняць шматлікія папрокі прэм'ера ў адрас аграрнікаў. А наракanняў з вуснаў С. Лінга прагучала нямала. «У апошні час на вёсцы прывыклі чакаць дапамогі з боку дзяржавы, — сказаў ён. — Але дзяржава не ў стане выдзеліць сумы, якія б пакрывалі безгаспадарчасць і нізкі ўзровень тэхналогіі ў аграрным сектары. Гэтага не будзе. Зараз многія прамысловыя прадпрыемствы б'юцца як рыба аб лёд, знаходзяць рынкі збыту сваёй прадукцыі, выпускаюць новыя, канкурэнтаздольныя тавары. Паглядзіце на нашы тэлевізары, трактары, халадзільнікі, аўтобусы, тралейбусы, электроніку, мэблю. Іх закупляюць з ахвотай нават за мяжой. Дык да якога часу ў сельскай гаспадарцы мы будзем мець удой па 2000 кілаграмаў на карову, атрымліваць 10 цэнтнераў зерня з гектара, 80 цэнтнераў бульбы, 200 грамаў прывагі ў жывёлагадоўлі?! Мы прадугледжваем для вёскі датацыі ў наступным годзе ў памеры каля 30 трлн. рублёў, але гэта патанае ў моры безгаспадарчасці. Трэба навучыцца не толькі выпрошваць грошы, але і самім варушыцца...»

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**



Фота Васіля ЗЯНЬКО.

## НА ПАЛІВА — НОВЫЯ ГАНДЛЁВЫЯ НАДБАЎКІ

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», Міністэрства эканомікі дазволіла дзяржаўнаму канцэрну «Белнафтахім» перагледзець гандлёвыя надбаўкі на прадукты нафтаперапрацоўкі, якія рэалізуюцца на аўтазапраўках па свабодных цэнах.**

Дазвол закране ўсе віды нафтапрадуктаў. На дызпаліва і ўсе маркі бензіну да АІ-95 памер гандлёвай надбаўкі павялічыцца з 30 да 40 працэнтаў. На высокаактанавы бензін, пачынаючы з АІ-95 і вышэй, абмежаванні, г.зн. гандлёвыя надбаўкі, зняты ўвогуле. Нафтапрадукты, якія рэалізуюцца па фіксаваных цэнах, гэта новаўвядзенне не закране. Наколькі вядома рэдакцыі, пакуль павелічэнне гандлёвых надбавак на рознічных цэнах на дызпаліва і бензін не адбілася.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АФГАНЦАЎ ВАБІЦЬ БЕЛАРУСЬ?

Як стала вядома «Звяздзе», з 1 чэрвеня (пачатку працэдуры масавай рэгістрацыі) з заявамі ў Рэгіянальныя службы Камітэта па справах бежанцаў нашай краіны звярнуліся 713 замежных грамадзян. 118 іншаземцаў ўжо прайшлі папярэдняе субяседаванне, а гэта значыць, што пытанне аб наданні ім афіцыйнага статусу бежанцаў павінна вырашыцца ў бліжэйшы час.

Адметна, што больш за палову (375 чалавек) ад усіх прэтэндэнтаў на статус бежанца маюць грамадзянства Афганістана. Прыкладна кожны чацвёрты жадаючы атрымаць прытулак у Беларусі з'яўляецца выхадцам з краін СНД.

**Сяргей ГРЫБ.**

*УСМІХНЁМСЯ!*





Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

**Ідуць заняткі па зборцы і разборцы зброі.**

**Старшына:**

**— Пытанне ёсць?**

**— Ёсць, таварыш старшына! Чаму аўтамат можна сабраць і разабраць, а салдата — нельга?**

**— Пытанне зразумелае, адказваю. Вось, уяві сабе, радавы Піліпенка, што ты сябе развінціў і лёг спаць, а тут — баявая трывога! Ты ў спешцы ўсё сабраў, і на месца галавы прыставіў іншае месца. І што атрымліваецца? Пілотка не налазіць, гімнасцёрка не зашпільваецца, усе крычаць «Ура!», а ты?**

*Падрабязнасці*

## «ГУЧНЫЯ СПРАВЫ» З ГУЧНЫМ ПРАЦЯГАМ

**Учора ў Пракуратуры Беларусі адбылася чарговая прэс-канферэнцыя. На стаўшых ужо традыцыйнымі сустрэчах Генеральнага пракурора краіны Алега БАЖЭЛКІ з журналістамі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі заўсёды цікавяць новыя падрабязнасці расследавання так званых «гучных спраў». І хоць многія крымінальныя справы, у якіх фігуруюць вядомыя ў Беларусі асобы, расследуюцца ўжо па году і больш, цікавасць грамадскасці да іх не зменшылася. Тым больш, што гэтыя «гучныя справы» вельмі часта маюць даволі гучны працяг.**

### ЗАБОЙЦЫ МІКАЛУЦКАГА РЫХТАВАЛІ ЗАМАХ І НА ПРЭЗІДЭНТА

Як вядома, не так даўно, падчас цырымоніі закладкі першага дома жылога комплексу «Алімпійскі» ў Мінску, прэзідэнт Беларусі зрабіў сенсацыйную заяву па справе старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага. Нагадаем: Аляксандр Лукашэнка тады паведаміў журналістам, што гэтая справа датычыць і яго асабістай бяспекі.

Больш таго, прэзідэнт тады недвухсэнсоўна намякнуў аб тым, што замах на яго рыхтаваўся ў пасольскіх рэзідэнцыях у Драздах.

Генеральны пракурор Алег Бажэлка пацвердзіў, што «падчас расследавання справы аб забойстве Яўгена Мікалуцкага было ўстаноўлена, што рыхтаваўся замах на прэзідэнта Беларусі». Па словах Алега Бажэлкі, выяўлены шэраг асоб, якія маюць дачыненне да гэтага злачынства. Некаторыя падазраваемыя, як адзначыў кіраўнік Пракуратуры, ужо арыштаваны і паўстануць перад судом.

Наогул, як паведаміў Алег Бажэлка, са справы Мікалуцкага выдзелены ў асобную вытворчасць шэраг матэрыялаў, па якіх працягваецца расследаванне.

Што датычыць забойства галоўнага прэзідэнцкага кантралёра па Магілёўскай вобласці, то, па інфармацыі Генпракурора, яно раскрыта, «адны абвінавачваемыя ўжо азнаёміліся з матэрыяламі крымінальнай справы, другія працягваюць знаёміцца».

### СУПРАЦЬ СТАРАВОЙТАВА — ЦЭЛЫ СТОЛ АБВІНАВАЧАННЯЎ

Справа былога старшыні знакамітага сельгаспрадпрыемства «Рассвет», двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Васіля Старавойтава хутка будзе слухацца ў судзе.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ВАЛЮТНЫЯ ЎКЛАДЫ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ

Паводле аператыўных даных, што паступілі ў БЕЛТА з упраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі, уклады насельніцтва ў беларускіх банках у замежнай валюце за першую палову кастрычніка гэтага года павялічыліся на 1,3 мільёна долараў ЗША. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што сітуацыя вакол іх, якая ўзнікла ў сувязі з фінансавым крызісам у Расіі, стабілізавалася.

# АД СПРАВАЗДАЧЫ ЎРАДА ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Відавочна, аграрнікі былі гатовы да такой рэзкай заявы прэм'ера, бо пры першай жа магчымасці кіраўнік галіновай камісіі Палаты прадстаўнікоў Мікалай Куцко адказаў на словы С. Лінга заявай да ўрада, пад якой загадзя падпісалася 75 дэпутатаў. Куцко запатрабаваў ад урада разгледзець пытанне з вырашэннем запазычанасці па крэдытах, у тым ліку і па таварных, вызначыць механізмы рэструктурызацыі даўгоў неплацежаздольных сельгаспрадпрыемстваў, устанавіць узровень закупачных цэн, якія б забяспечвалі кампенсацыю тэхналагічных затрат на выраб прадукцыі, заканадаўча замацаваць механізм індэксацыі закупачных цэн адносна валютнага курса і росту цэн на энерганосьбіты. Прагучаў яшчэ шэраг прапаноў. Нельга сказаць, што С. Лінг пагадзіўся выключна з усімі, але ён выказаў задавальненне, што ў парламента і ўрада ёсць сумеснае жаданне вырашаць праблемы вёскі.

Напярэдадні зімы асобна гучала тэма падрыхтоўкі да асенне-зімовага сезона. Паводле слоў прэм'ера, зімаваць прыйдзецца ў складаных умовах. Запасы энерганосьбітаў, якіх хопіць на месяц, не дазваляюць адчуваць сябе цалкам спакойна. Так, зараз у краіне маецца толькі 310 млн. кубаметраў газу, 668 тысяч тон мазуту і яшчэ крыху больш як 700 тысяч тон мазуту знаходзіцца ў дзяржаўным рэзерве. У той жа час Беларусь завінавацілася Расіі толькі за газ 230 млн. долараў. Як адзначыў С. Лінг, 200 млн. гэтага доўгу будзе пагашацца беларускімі таварамі, на што згадзіўся расійскі бок. Адначасова кіраўнік урада выказаў нездаволенасць падрыхтоўкай да зімы службамі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, дзе страты цяпла і энергарэсурсаў яшчэ вельмі і вельмі вялікія.

Разважаючы пра бліжэйшую перспектыву, Сяргей Лінг адзначыў асаблівасці бюджэту на наступны год. Ён паведаміў, што ўрад лічыць згубнай практыку, калі бюджэт ствараўся з вялікім дэфіцытам. Таму прадугледжваецца, што ў 1999 годзе дэфіцыт бюджэту не будзе перавышаць 1,5 працэнта ад ВУП. С. Лінг выступіў супраць практыкі пагашэння дэфіцыту за кошт велізарных крэдытаў Нацбанка і выпуску вялікіх аб'ёмаў дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый. Да таго ж у наступным годзе Беларусь павінна будзе пачаць выплату па замежных крэдытах, якія былі атрыманы ў папярэднія гады.

Выступленне С. Лінга, як і асобных міністраў, што потым бралі слова, было ацэнена дэпутатамі па-рознаму. У большасці парламентары выказалі падтрымку ўраду, які, паводле іх слоў, робіць у сённяшніх умовах нават немагчымае. Але адчувальны дысананс у такую ацэнку ўнёс Анатоль Красуцкі, які канстатаваў моцнае пагаршэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, паглыбленне крызісу ў эканоміцы краіны і паставіў перад прэм'ерам пытанне рубам: «Ці ў стане зараз урад забяспечыць выкананне праграмы па выхаду з крызісу? Калі не, то ці гатовы ўрад узяць не сябе ўсю паўнату адказнасці і добраахвотна падаць у адстаўку, пакуль гэтага не запатрабуе праз парламент народ шляхам вынясення вотуму недавер'я?» Характар свайго пытання А. Красуцкі патлумачыў тым, што ён даносіць думкі і настроі сваіх выбаршчыкаў. С. Лінг даволі спакойна адрагаваў на прамову дэпутата і заявіў, што яго выступленне грунтуецца на афіцыйных лічбах, згодна з якімі растуць рэальныя даходы насельніцтва, а значыць і дабрабыт людзей. Затое раздражнёна ўспрынялі пытанне А. Красуцкага большасць яго калег. Дэпутаты неаднаразова апраўдваліся перад прэм'ерам за ўчынак Красуцкага і нават прасілі прабачэння. Прынамсі, С. Лінг пакінуў парламенцкую трыбуну са словамі: «Мы свае памылкі бачым лепш за вас».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ПАСТАНОВА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**АБ ЗАЯВЕ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ СІТУАЦЫІ ВАКОЛ САЮЗНАЙ РЭСПУБЛІКІ ЮГАСЛАВІЯ**

Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць Заяву Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аб сітуацыі вакол Саюзнай Рэспублікі Югаславія.
2. Апублікаваць гэтую Заяву ў сродках масавай інфармацыі.
3. Даручыць Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь накіраваць гэтую Заяву ў парламенты замежных краін і міжнародныя арганізацыі.

**Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь П. ШЫПУК**

*22 кастрычніка 1998 г., г. Мінск.*
*№ 383-СР/V*

## ЗАЯВА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказвае сур'ёзную заклапочанасць у сувязі з тым, што дагэтуль існуе пагроза ваеннай акцыі на Балканах з боку НАТО, нягледзячы на тое, што югаслаўскае кіраўніцтва прыняло практычныя дзеянні па выкананню рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН № 1199: распачатая адвод паліцэйскіх спецпадраздзяленняў да месцаў пастаяннай дыслакацыі, ствараюцца ўмовы для вяртання бежанцаў, прымаюцца намаганні да таго, каб ажыццяўляўся палітычны дыялог.

Члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь упэўнены ў тым, што выкарыстанне Паўночнаатлантычным альянсам ваеннай сілы толькі пагоршыць становішча, разбурыць перспектывы мірных перагавораў, рэзка абвострыць сітуацыю на Балканах і ў раёнах, мяжуючых з Косава. Ваенная аперацыя пацягне за сабой шматлікія ахвяры сярод мірнага насельніцтва і павялічыць паток бежанцаў.

Рэспубліка Беларусь выступае за тое, каб міжнароднае супольніцтва накіравала ў Косава справядлівых назіральнікаў, якія маглі б рэальна ацаніць абстаноўку і садзейнічаць мірнаму ўрэгуляванню канфлікту.

Неабходна як мага хутчэй аднавіць работу місіі ОБСЕ ў Косава, таму што парламент Саюзнай Рэспублікі Югаславія пацвердзіў у сваім рашэнні гатоўнасць садзейнічаць яе рабоце ў выкананні рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН.

Звяртаемся да парламентаў і парламентарыяў усіх краін з заклікам зрабіць усё магчымае да недапушчэння ваеннай акцыі ў Косава, садзейнічаць мірнаму вырашэнню гэтай праблемы.

## БОЛЬШ ГРОШАЙ У ТАГО, ХТО БЛІЖЭЙ ДА ІХ

Усяго па народнай гаспадарцы Беларусі, згодна з апошнімі данымі Мінстата рэспублікі, налічаная сярэднямесячная зарплата ў верасні склала 4 мільёны 663,6 тысячы рублёў. Па-ранейшаму нізкім гэты паказчык застаецца ў калгаснікаў — 2 мільёны 634,1 тысячы рублёў. У рабочых і служачых ён крыху вышэйшы за сярэднерэспубліканскі — 4 мільёны 933,4 тысячы рублёў.

Калі браць расклад па прафесійных сферах, то больш за ўсіх у верасні атрымалі работнікі банкаў — у сярэднім па 9 мільёнаў 204 тысячы рублёў і супрацоўнікі судовых і юрыдычных устаноў — па 5 мільёнаў 851,6 тысячы рублёў. У сферы матэрыяльнай вытворчасці апярэджваюць іншых будаўнікі — у іх сярэдняя зарплата 6 мільёнаў 572,2 тысячы рублёў, за імі ідуць авіятары — 6 мільёнаў 371,4 тысячы рублёў і прамыслоўцы — 5 мільёнаў 945,7 тысячы рублёў.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

# «Я ПРЫМАЎ УДЗЕЛ У ГЭТЫМ ЖЫЦЦІ...»

**Польскі інстытут у Мінску і Беларуская федэрацыя «Кінаклуб» запрасілі на Беларусь вядомага рэжысёра Кшыштафа Занусі з прэм'ерным паказам кінастужкі «Брат нашага Бога» паводле п'есы Караля Вайтылы.**

Аўтар экранізаванай п'есы — Ян Павел II. Але стваралася яна яшчэ тады, калі будучы папа асабіста вырашаў свой лёс. Гэты выбар быў аддадзены рэлігіі. Кінастужка здымалася з выпадку 20-годдзя абрання папай.

Чаму Занусі і чаму менавіта такі фільм — на англійскай мове, сумесная вытворчасць Італіі, Польшчы, ФРГ?

Сам рэжысёр тлумачыць гэтую з'яву даволі канкрэтна. Ягоны мастацкі інтарэс звязаны з тым, што завецца ментэлітэтам. Адносіны веры і розуму — вось што заўсёды хвалявала К. Занусі. І менавіта на такую п'есу натрапіў рэжысёр у сваіх творчых пошуках, калі прыспеў час адзначаць юбілейную дату выхаду знакамітага земляка. Фільм пра чалавека свету павінен быў стаць даступным для ўсіх хрысціян. Але кінастужка — не панегірык, не калядны падарунак у бліскучых паперках. Фільм — тэатр, перанесены на экран, гісторыя пра чалавечы выбар. На думку мастака, выбар, дакладней — здольнасць яго зрабіць, вызначае свабоду асобы. А ўяўленні аб свабодзе, шчасці, нарэшце, мэце жыцця, над якімі б'ецца галоўны герой п'есы жывапісец Адам Хмялеўскі, так сугучны самому рэжысёру. Дарэчы, герой — асоба з рэальнага жыцця, пасля кананізавання і вядомая як св. Брат Альберт. Менавіта гэта асоба, па прызнанню Яна Паўла II, адыграла выключную ролю ў ягоным адыходзе ад мастацтва, літаратуры і тэатра і прысвячэнні Богу. К. Занусі разумее гэты выбар: двум гаспадарам адразу служыць цяжка. Кінастужка, як і п'еса, насычана дыялогамі, разважаннямі наконт таго, што любіць розумам немагчыма, і чалавек, адмовіўшыся ад дабрабыту, грошай, прымае пакуты абяздоленых як свае, больш таго, засцерагае іх ад разбуральнай сілы іх жа гневу.

Каму належыць мастак, каму належыць мастацтва? Занусі ўвабраў у сябе карані розных народаў. Ад продкаў яму дасталіся гены італьянцаў. Зараз кінарэжысёра можна знайсці ў Францыі, працуе з акцёрамі з розных кантынентаў. Апошняя кінастужка дэманстравалася ў Японіі, Італіі, неўзабаве прайшла па тэлеэкранах у Польшчы. Занусі цікавяцца ў Амерыцы. Фільм быў паказаны таксама ў цэнтрах праваслаўя, у Маскве і Санкт-Пецярбургу. Дарэчы, ганаровым доктарам у адным з гэтых цэнтраў Занусі ўсё ж такі стаў — у Дзяржаўным інстытуце кіно, што ў Маскве.

Занусі свядома не ідзе на канфлікт, хаця яго да таго могуць падштурхнуць нават ягоныя персанажы. Рэжысёр прызнаўся, што ў час працы над п'есай Караля Вайтылы ён вымушаны быў абараняцца ад такой спакусы. Здаралася, канфлікт у самім рэжысёры мог адбыцца зусім нядаўна, калі К. Занусі, па ягонаму асабістаму прызнанню, адчуў, што губляе гледача. Было знойдзена радыкальнае выйсце. Рэжысёр зрабіў для тэлебачання 7 гадзінных карцін — і адчуў палёгку. Зноў поспех, зноў публіка разам з ім. Такім чынам, пэўна, сёння надышоў час сусветнага кінамастацтва, сусветных кінарэжысёраў, якія насычаны вопытам папярэдніх пакаленняў, валодаюць духоўнай спадчынай і працуюць па-сучаснаму. Кшыштаф Занусі — не выключэнне. Філосаф па складу розуму (сваю адукацыю пачынаў у Кракаўскім універсітэце), які вывучаў фізіку і адчуў тую тайну, якой прасякнута духоўная прастора вакол гэтай навукі навук, настаўнік, які не патрабуе ад вучня падпарадкавання, а толькі сатворчасці, нарэшце, кінарэжысёр, які заўсёды робіць толькі для гледачоў, для людзей. І на вяршыні ўсіх гэтых імкненняў — думка пра выратаванне душы, а не сусвету, які можа ў любы час абваліцца. Вось такія жыццёвыя скрыжаванні ў Кшыштафа Занусі.

На справе кола дзейнасці сучаснага рэжысёра значна шырэйшае. Занусі спакушаны журналістыкай, піша артыкулы для польскага выдання «Рэспубліка», у апошні час выступае ў ролі прадзюсера сваіх кінастужак, ён дырэктар кінааб'яднання, засядае ў разнастайных саветах — навуковых, грамадскіх. У ягоным доме заўсёды жыве нехта з гасцей. Жонка рэжысёра і сам гаспадар рады кожнаму, хто спадзяецца на іх дапамогу. Кінарэжысёр кажа, што так ён вяртае даўгі маладосці, калі яму без грошай, з адной толькі прагай пагледзець свет давялося падарожнічаць па розных краінах. І людзі дапамагалі яму. Мабыць, так і ёсць — чалавек сусвету. Ён сапраўды ўдзельнічае ў жыцці, і таму яму ёсць пра што расказваць людзям і Богу.

**Ірына ТОЎСЦІК.**

# «ГУЧНЫЯ СПРАВЫ» З ГУЧНЫМ ПРАЦЯГАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Як паведаміў Алег Бажэлка, Васілю Старавойтаву прад'яўлена абвінавачанне па шэрагу артыкулаў Крымінальнага кодэкса. У прыватнасці, па словах Генеральнага пракурора, былы кіраўнік «Рассвета» падазраецца:

— у крадзяжах маёмасці шляхам злоўжывання службовым становішчам на суму больш за 4 мільярды рублёў;

— у атрыманні хабару на агульную суму 1,3 мільярда рублёў;

— у арганізацыі кантрабанднага правозу праз дзяржаўную граніцу Беларусі больш як 23 тысяч долараў ЗША;

— у арганізацыі незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, у выніку якой быў атрыманы даход у суме 16 мільярдаў 372 мільёнаў рублёў;

— у арганізацыі вытворчасці і продажу нестандартнай і няякаснай алкагольнай прадукцыі на суму 938 мільёнаў рублёў, ва ўтойванні даходаў ЗАТ «Рассвет»;

— у выманьванні крэдытаў, у незаконным набыцці і захоўванні агнястрэльнай зброі.

### ЛЯВОНАВУ ЯШЧЭ НЕ ПРАД'ЯВІЛІ КАНЧАТКОВАГА АБВІНАВАЧАННЯ

Куды менш інфармацыі атрымалі журналісты аб расследаванні справы экс-міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіля Лявонава. Алег Бажэлка толькі паведаміў, што Лявонаў падазраецца ў неаднаразовым атрыманні хабару ад службовых асоб, а такама ў крадзяжах і злоўжыванні службовым становішчам. Але канчаткова абвінавачанне супраць былога міністра яшчэ не сфармулявана.

### ПОБАЧ З КЛІМАВЫМ МОЖА АПЫНУЦЦА ХТОСЬЦІ З ЧЫНОЎНІКАЎ УКБ СТАЛІЦЫ

Вядомы ў Беларусі бізнесмен і дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэй Клімаў таксама наўрад ці ў бліжэйшы час выйдзе на волю. Па словах Алега Бажэлкі, тэрмін утрымання пад вартай Андрэю Клімаву падоўжаны да 11 снежня гэтага года. Бізнесмен падазраецца пракуратурай у крадзяжы бюджэтных сродкаў у асабліва буйных памерах і ў ажыццяўленні незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Генеральны пракурор таксама паведаміў, што ў рамках расследавання справы Клімава праводзіцца рэвізія ўпраўлення капітальнага будаўніцтва (УКБ) Мінскага гарвыканкама. Па словах Алега Бажэлкі, «цалкам верагодна, што хтосьці са службовых асоб УКБ таксама будзе адказваць перад законам».

### ПРАКУРАТУРА ЗНАЙШЛА ДАЎЖНІКА УЛАДЗІМІРА ХІЛЬКО

Экс-старшыня Ашчаднага банка Уладзімір Хілько, як паведаміў Генеральны пракурор, падазраецца ў незаконнай выдачы крэдыту на 1 мільён долараў нейкаму грамадзяніну Падоксіку. Крэдыт да гэтага часу не вернуты, хоць месцазнаходжанне даўжніка, па словах Генеральнага пракурора, ужо вядома. Зараз праводзяцца перамовы з кампетэнтнымі службамі адной з замежных краін аб выдачы грамадзяніна Падоксіка.

### ДАЛЕЙШЫ ЛЁС ТАМАРЫ ВІННІКАВАЙ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЭКСПЕРТЫЗЫ

Невядома, калі ў рэшце рэшт завершыцца справа экс-старшыні праўлення Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай, якая доўжыцца ўжо амаль два гады.

Па словах Алега Бажэлкі, зараз пракуратурай вынесена пастанова аб правядзенні комплекснай медыка-псіхалагічнай экспертызы, якая павінна даць адказ на пытанне: ці можа удзельнічаць спадарыня Віннікава ў следчых дзеяннях?

Менавіта пасля гэтай экспертызы, як адзначыў Генеральны пракурор, «будзе вызначацца магчымасць завяршэння папярэдняга следства і прад'яўлення Тамары Віннікавай канчатковага абвінавачання».

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## ФІЗІЧНЫМ АСОБАМ ДА 18 ГАДОЎ ГАРЭЛКУ НЕ ПРАДАДУЦЬ

Савет Міністраў унёс змяненні ў пастанову «Аб упарадкаванні гандлю гарэлкай і іншымі спіртнымі напоямі ў Рэспубліцы Беларусь». Так, з 16 кастрычніка забараняецца продаж алкагольнай прадукцыі фізічным асобам, якім не споўнілася 18 гадоў, і розлічны гандаль спіртам. Акрамя таго розлічны гандаль алкагольнымі напоямі забараняецца, у прыватнасці, у кіёсках, павільёнах, ларках.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.53 | 17.54 | 10.01 |
| Віцебск – | 7.46 | 17.41 | 9.55 |
| Магілёў – | 7.42 | 17.44 | 10.02 |
| Гомель – | 7.38 | 17.42 | 10.04 |
| Гродна – | 7.10 | 18.08 | 9.58 |
| Брэст – | 7.05 | 18.14 | 10.09 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра — 30 жніўня. З 16.14 — 12-ыя месяцавыя суткі. З 5.24 месяц у сузор'і Казярога**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Зінаіды, Філанілы, Піліпа, Феафана**
**К. Антонія, Марціна**

### НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночнаму захаду дажджы. Вецер паўднёвы, 4—9, парывы да 14 с/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 11—13, Мінску і Гомелі — 12—14, Гродне — 13—15, Брэсце — 14—16 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 25-га — па захаду, 26-га — на большай частцы тэрыторыі дажджы. Вецер паўднёвы з пераходам на заходні, 9—14 м/сек; удзень 25-га і ўначы 26-га парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература 25-га ўначы — 6—11, удзень — 8—13, 26-га на працягу сутак 5—10 градусаў вышэй нуля.

## "ЗВЯЗДА" ЕДЗЕ НА МІЖНАРОДНУЮ ВЫСТАЎКУ «ПРЭСА-99»

**Больш за 20 перыядычных выданняў прадставяць Беларусь на міжнароднай выстаўцы «Прэса-99», якая пройдзе ў Маскве з 28 кастрычніка па 2 лістапада. У ёй прымуць удзел газеты і часопісы, выдавецкія групы і паліграфічныя прадпрыемствы з 50 краін свету. Сярод іх ЗША, Германія, Фінляндыя, Аўстрыя, краіны СНД.**

Наша рэспубліка будзе прадстаўлена 17 дзяржаўнымі і трыма недзяржаўнымі перыядычнымі выданнямі. Сярод іх — «Советская Белоруссия», «Звязда», «Рэспубліка», «Народная газета», «Свободные новости», «Белорусская деловая газета».

Як расказаў старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Беларусі Міхаіл Падгайны, на выстаўцы можа экспанавацца любое выданне ці выдавецкая група, аднак далёка не ў кожнага ёсць фінансавыя магчымасці. На выстаўцы «Прэса-99» таксама будуць праходзіць перагаворы аб уключэнні як мага большай колькасці беларускіх перыядычных выданняў у расійскую падпіску.

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ, БЕЛТА.**

## ФЕСТЫВАЛЬ МОНАСПЕКТАКЛЯЎ ЗАВЕРШАНЫ

**Завяршыўся III міжнародны фестываль монаспектакляў «Я», які праходзіў у Мінску з 15 па 20 кастрычніка.**

Першае месца аддадзена акцёру з Малдовы — Думітру Фусу, які прадстаўляў спектакль паводле М.Эмінеску «З гісторыі жыцця чалавека і чалавецтва». Думітру Фусу працуе як рэжысёр тэатра і кіно і як мастак. Трыццаць гадоў таму стварыў Тэатр аднаго акцёра ў Кішынёве, дзе аддае перавагу румынскім і малдаўскім аўтарам, а таксама рускім класікам.

Літоўскай актрысе Бірутэ Марцінкявічутэ прысуджана другое месца. Яна прадстаўляла п'есу паводле «Шчаслівых дзён» Самюэля Бекета «Словы ў пяску».

І трэцяе месца атрымала Эмілія Пранскутэ, якая прадстаўляла спектакль паводле паэмы Марыны Цвятаевай «Пацукалоў».

Дыпломаў удастоены Ласма Кугрэна (Латвія) — за адметную выканаўчую работу; Галіна Дзягілева (Беларусь) — за адданасць прыгожаму пісьменству; Фёдар Шмакаў (Беларусь) — за вернасць класічным тэатральным традыцыям і Ніна Добрыкава (Расія) — за аўтарскі спектакль, за спавядальнасць.

**Вольга РАМАНЮК.**

**Парадаксальная рэч. Апошнім часам жыццё не падносіць нам прыемных рэчаў і, здаецца, адзінае пытанне, якое вырашаюць людзі, — як утрымацца. Але ж не. Не толькі пра ўласныя інтарэсы дбаюць беларусы. Падчас нядаўняй «прамой лініі» са старшынёй Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь Георгіем Кузняцовым высветлілася, што дабрабыт краіны хвалюе суайчыннікаў не менш, чым уласны.**

***Георгій КУЗНЯЦОЎ:***

# «ТРЭБА РАДАВАЦЦА ЗА ЗЯМЛЮ, КАЛІ НА ЁЙ ШЧЫРУЮЦЬ»

**— ДОБРЫ ДЗЕНЬ, Георгій Іванавіч! Вас турбуе Ларыса Палякова. Сама я мінчанка, а бацькі пражываюць у Гомельскай вобласці. Ці атрымаю я ў спадчыну зямлю, якой яны валодаюць?**

— Калі нашчадак пражывае ў сельскай мясцовасці, то, згодна з дзеючым заканадаўствам, ён мае права атрымання ў спадчыну ўчастка памерам да 1 гектара. А гарадскія жыхары могуць прэтэндаваць толькі на кавалак зямлі памерам ад 10 да 25 сотак для абслугоўвання жылога дома. Памер зямельнага ўчастка вызначае мясцовы Савет дэпутатаў.

**— А на каго будзе аформлены ў спадчыну гэты ўчастак?**

— На каго аформлены жылы дом, на таго і зямля.

**— Іван Ануфрыевіч Трашкевіч са Ждановіч звяртаецца. Мы з 1992 года стаім у чарзе на атрыманне ўчастка для будаўніцтва жылля. Сёння ўвогуле ніякага руху не назіраецца. А дачка жыве ў Мінску, кватэру здымае. Самі разумееце, крыўдна грошы аддаваць, калі іх у будоўлю можна ўкладваць.**

— Я разумею вас. У падобным становішчы, на жаль, апынуліся многія. У сельскіх Саветаў сёння няма грошай на распрацоўку праектаў планіроўкі і забудовы, таму і «замерзла» чарга. Я перадам ваша пытанне ў райвыканкам, вырашэнне яго не ў кампетэнцыі камітэта.

**— Мяне завуць Віктар Хурсік. Я жыву ў сталіцы, але часта езджу па рэспубліцы. Каму належыць зямля пасля высечак? Крыўдна бачыць, што яна пустуе. Ля вёскі Пагарэлае, што ў Асіповіцкім раёне, напрыклад, ужо гадоў трыццаць лапіны сярод лесу голыя, ніхто не садзіць там зноў дрэвы.**

— Дзіўна чуць такое. Міністэрства лясной гаспадаркі ўвесь час да нас звяртаецца з просьбай выдзеліць плошчы пад пасадку лесу, бо не хапае свабодных зямель. А вы кажаце адваротнае. Кожны лясгас, якому належыць пэўная тэрыторыя, павінен пасля высечкі лесу засадзіць яе новымі дрэвамі. Я паведамлю міністру лясной гаспадаркі. Трэба высветліць, у чым прычына.

**— І яшчэ адно пытанне, Георгій Іванавіч. Чаму не можам надрукаваць карты раёнаў?**

— Таму што раней гэтым пытаннем не займаліся вельмі шчыльна. Нашаму камітэту даручана яго вядзенне не так даўно. Першы плён ужо ёсць. Што з'явяцца карты раёнаў у хуткім часе, пакуль не абяцаю. Але зусім нядаўна падпісана да друку карта Мінскай вобласці. Яна вельмі падрабязная, там адлюстраваны землеўладанні ўсіх калгасаў і саўгасаў, сялянскіх гаспадарак, лясгасаў, населеныя пункты, дарогі, межы раёнаў. На наступны год плануем зрабіць карты астатніх пяці абласцей.

**— Ад імя аўтааматараў я, Мінько Андрэй Васільевіч, хачу сказаць, што ўсе, хто круціць абаранку машыны, былі б вельмі ўдзячныя за з'яўленне буйнамаштабных карт.**

— Якраз толькі што адказваў на падобны званок на гэтую тэму. Я сам аўтааматар, карыстаюся «Атласам аўтамабільных дарог», што выпускае адна з беларускіх фірмаў.

**— Дробны маштаб...**

— Да канца гэтага года будзе надрукавана буйнамаштабная карта Мінскай вобласці. Там і ўсе аўтамабільныя дарогі нанесены.

**— А колькі яна каштаваць будзе?**



— Думаю, няшмат. Выдаецца яна за бюджэтныя сродкі, і трэба вярнуць толькі тое, што страцілі, а нацэнка будзе неістотнай.

**— Добры дзень, Георгій Іванавіч! Мяне завуць Святлана Міхайлаўна Іванова. У нас такая справа. Бабуля жыла ў вёсцы, завяшчала ўчастак свекрыві. Мы з мужам паставілі там дом.**

— Самавольна?

**— Атрымліваецца, што так. Цяпер хацелася б замацаваць за сабой пэўны кавалак зямлі з домам.**

— Неабходна пісьмовая згода свекрыві. А потым з гэтым дакументам і хадайніцтвам звяртайцеся ў сельскі Савет. Будзьце гатовы, што напачатку вас аштрафуюць за самавольнае заняцце зямельнага участка, самавольную будоўлю. На колькі? Можаце і да 10 мінімальных зарплат атрымаць. Потым давядзецца прайсці круг узгадненняў: з архітэктарамі, пажарнікамі, эколагамі, спецыялістамі СЭС. Пасля гэтага ўжо ў сельсавеце прымуць рашэнне аб выдзяленні зямельнага ўчастка.

**— Дзмітрый Гушчынскі вас турбуе. У нас дача пад Дзяржынскам ёсць. Плошча ўчастка — 6 сотак. Ці можна яго павялічыць?**

— Калі садаводчае таварыства мае свабодныя плошчы. Калі не, то праўленне таварыства павінна звярнуцца з хадайніцтвам у райвыканкам аб выдзяленні таварыству дадатковага ўчастка. Просьбу задаволяць, калі ёсць магчымасць.

**— Патомны селянін звяртаецца. Калі будзе вызначаны рэальны кошт зямлі? Балюча бачыць, як яе за бесцань прадаюць.**

— Згодны з вамі, што нельга багаццем такім раскідвацца. Дзяржкамітэт ужо заканчвае кадастравую ацэнку зямель сельскагаспадарчага прызначэння — згодна з пастановай Вярхоўнага Савета. Ацэньваем вельмі старанна, улічваючы ўсе паказчыкі кожнага ўчастка: урадлівасць, месцазнаходжанне, тэхналагічныя ўласцівасці, кліматычныя ўмовы. Так што сапраўдную цану зямлі мы вызначым.

**— Мне падаецца, трэба стварыць Зямельны банк.**

— Можа, калі-небудзь і прыйдзем да гэтага, але ж пакуль у нас няма сапраўднага рынку зямлі. Праўда, ужо назіраецца некаторы рух. Ажыццяўляецца купля-продаж зямельных участкаў, якія знаходзяцца ва ўласнасці грамадзян. Новай рэдакцыяй Закона «Аб праве ўласнасці на зямлю» дазволена ўчасткі набываць ва ўласнасць замежным дзяржавам, юрыдычным асобам. Зараз вядзём эксперыментальныя работы па ацэнцы зямель у Мінску і Оршы. Найперш, напэўна ж, цікавасць да гарадской зямлі будзе. Напрыклад, у Мінску ўжо выказалі жаданне выкупіць зямлю пад свае пасольства немцы.

**— Я пастаянны чытач «Звязды», званю з Івацэвічаў. У Расіі завершана перадача зямлі ва ўласнасць. А калі ў нас зямля сельскагаспадарчага прызначэння атрымае канкрэтнага гаспадара?**

— У Расіі з зямлёй абышліся не лепшым чынам. Падзялілі на паперы, перадалі, толькі сёння толкам ніхто не ведае, дзе яго ўласнасць, а дзе суседа. Адзін свой надзел за капейку прадаў, а другі ў памешчыка ператварыўся. У нас па Канстытуцыі землі сельскагаспадарчага прызначэння ва ўласнасць не перадаюцца. Згодна з Кодэксам аб зямлі грамадзяне маюць права на кавалак зямлі памерам да 1 гектара для вядзення асабістай гаспадаркі, будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, а таксама да 0,15 га для садаводства і дачнага будаўніцтва. Гэтыя ўчасткі па жаданню могуць стаць уласнасцю грамадзяніна і ў яго ўладзе прадаць, падарыць ці завяшчаць нашчадкам зямлю. Адзіная ўмова: нельга выкарыстоўваць зямлю не па мэтаваму прызначэнню. Не будаваць на ўчастку, напрыклад, магазін ці завод. Праектам новага Кодэкса аб зямлі, які, напэўна, уступіць у сілу з наступнага года, уносяцца некаторыя змяненні. У прыватнасці, ва ўласнасць юрыдычным асобам будуць перадавацца землі, якія прадастаўлены пад будаўніцтва і эксплуатацыю неабходных рэспубліцы прадпрыемстваў пры ажыццяўленні інвестыцыйных праектаў, ці тыя ўчасткі, дзе знаходзяцца прыватызаваныя аб'екты гаспадарчага прызначэння або аб'екты па аказанню паслуг. Замежныя пасольствы і дыпламатычныя прадстаўніцтвы змогуць выкупляць ва ўласнасць зямлю, дзе знаходзяцца іх дыпламатычныя будынкі на тых жа ўмовах, на якіх яны ў сваіх дзяржавах прадастаўляюць зямельныя ўчасткі пасольству Беларусі. Пры гэтым рашэнне аб перадачы зямель ва ўласнасць юрыдычных асоб і замежных дзяржаў прымае прэзідэнт краіны або ўпаўнаважаны ім орган.

**— І яшчэ мяне цікавіць наступнае. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС мінула ўжо 12 гадоў. Колькі зямель выведзена з абароту?**

— Сёння ўжо адбываецца вяртанне часткі іх. Тады дэталёва не разбіраліся, прынялі рашэнне вывесці. 265,4 тысячы га было выведзена. Цяпер вядуцца даследаванні, удакладненні, і ўжо будуць апрацоўвацца 4098 га зямель.

***Даведка «Звязды».*** *22 працэнты агульнай плошчы Беларусі (4,8 мільёна га) забруджана радыенуклідамі са шчыльнасцю забруджання цэзіем-137 адзін і больш Кі/кв. км. Больш за ўсё было выключана з сельскагаспадарчага абароту зямель у Гомельскай вобласці — 218,3 тысячы га. У Магілёўскай вобласці плошча выведзеных зямель склала 47 тысяч га, у Брэсцкай — 0,1 тысячы га. Згодна з пастановай Савета Міністраў ад 22 кастрычніка 1992 года гэтыя землі аднесены да катэгорыі радыяцыйна небяспечных, і на іх забаронена вырошчванне сельскагаспадарчай прадукцыі...*

*У апошнія гады з катэгорыі радыяцыйна небяспечных у Гомельскай вобласці выключана 4098 га зямлі. Сельскагаспадарчыя работы павінны праводзіцца на іх у адпаведнасці з Часовымі санітарнымі правіламі пры выкананні работ у жывёлагадоўлі, раслінаводстве, а таксама пры эксплуатацыі і рамонце сельскагаспадарчай тэхнікі.*

*Акрамя таго, 7 тысяч 476 га зямель у Веткаўскім, Брагінскім, Кармянскім, Чачэрскім раёнах Гомельскай вобласці і ў Касцюковіцкім і Краснапольскім раёнах Магілёўскай вобласці пераведзена ў разрад зямель абмежаванага гаспадарчага карыстання.*

**— Даўні чытач з Брэсцкай вобласці Васіль Рыгоравіч Бянько. Калі ласка, дапамажыце разабрацца, Георгій Іванавіч. Мы прыватызавалі 20 сотак зямлі каля дома і, каб атрымаць Дзяржакт, трэба выкласці вялікую суму, кажуць, ледзь не 10 мільёнаў.**

— Вас дэзінфармавалі, няпраўда гэта. Да 1 кастрычніка была расцэнка на землеўпарадкавальныя работы 1 мільён 35 тысяч рублёў, цяпер уведзены павышаючы каэфіцыент, і сума складае 1 мільён 450 тысяч рублёў. Расцэнкі на гэтыя работы ўстанаўлівае наш камітэт, і я асабіста іх зацвярджаю. Мы кантралюем таксама, каб заяўкі выконваліся на працягу месяца. Кошт работ па афармленню матэрыялаў на набыццё членамі садаводчага таварыства зямельных участкаў ва ўласнасць ці пажыццёвую спадчыну з 1 кастрычніка гэтага года роўны 500—630 тысячам рублёў за адзін участак.

***Даведка «Звязды».*** *Работы па афармленню і выдачы дакументаў на права ўласнасці і валодання зямлёй грамадзянам для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, садаводства і дачнага будаўніцтва выконваюць спецыялізаваныя дзяржаўныя прадпрыемствы «Праектны інстытут Белгіпразем» (г. Мінск, вул. Казінца, 86, корп. 3) і яго філіялы ў гарадах Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродна і Магілёве, Беларускае прадпрыемства сельскагаспадарчых аэрафотагеадэзічных вышуканняў (Мінскі раён, п/а Прылукі, вул. Міру, 1а), Беларускае картографа-геадэзічнае аб'яднанне «Белгеадэзія» (г. Мінск, вул. Варвашэні, 17), Беларускі навукова-ўкараняльны цэнтр па землеўпарадкаванню (г. Мінск, вул. Казінца, 86, корп. 3), «Землепраект» (г. Мінск, вул. Я. Купалы, 17/30) — для жыхароў г. Мінска і іншыя прадпрыемствы і прыватныя прадпрымальнікі, якім выдадзена Дзяржкамземам ліцэнзія на выкананне гэтых работ.*

**— Дзякуй вам, што патлумачылі, а то не ведалі, што і рабіць. І яшчэ, карыстаючыся магчымасцю, хачу спытаць. Цяпер шмат пустуе садовых участкаў. Ці нельга аддаць іх у распараджэнне вясковых жыхароў? А то шкада зямлю — прападае.**

— У гэтым годзе мы праверылі ўсе садаводчыя таварыствы. Падчас інвентарызацыі высветлілі, што ў рэспубліцы пустуюць 21 тысяча 603 участкі. Больш за ўсё іх у Віцебскай і Мінскай абласцях — 9 тысяч 626 і 5 тысяч 621 участак адпаведна. У Гродзенскай вобласці таксама нямала — 3 тысячы 69. Гомельская ж і Магілёўская вобласці — «пераможцы», тут пустуе 928 і 599 участкаў адпаведна. Многія ўжо знайшлі новых гаспадароў. Некаторыя неапрацаваныя ўчасткі, што знаходзяцца недалёка ад вёскі, магчыма, будзем пад сенажаці аддаваць. Вы задаяце справядлівае пытанне, і мы ўжо займаемся яго вырашэннем.

**— Колькі можна атрымаць зямлі ў арэнду? Я жыхар Мядзельскага раёна Павел Гасанаў.**

— З уступленнем у сілу новай рэдакцыі Кодэкса аб зямлі вы можаце прэтэндаваць на ўчастак да 3 гектараў, калі ваша мэта — вядзенне асабістай гаспадаркі. Калі ж мэта больш маштабная, то і размова можа ісці пра большыя плошчы. Думаю, чалавеку трэба даць столькі зямлі ў арэнду, колькі ён у стане апрацаваць. На мой погляд, трэба толькі радавацца, калі людзі шчыруюць на зямлі.

**— Але ж права валодання лепшымі кавалкамі застаецца за калгасамі?**

— Права распараджэння зямлёй — не ў кампетэнцыі калгасаў і саўгасаў. Па закону сельскі Савет дае сваю згоду на выдзяленне таго ці іншага ўчастка грамадзяніну.

**— Пенсіянерка з Лагойскага раёна звяртаецца. Адкажыце, калі ласка, якія ўстаноўлены нормы пасадкі кустоў і дрэў на граніцах участкаў, што належаць грамадзянам у садаводчых таварыствах? Суседка садзіць ля самай мяжы, у нас канфлікт з-за гэтага.**

— Кожны член садаводчага таварыства абавязаны праводзіць пасадку пладовых дрэў семкавых парод на адлегласці не менш як 3 метры, костачкавых — 2 метры, кустарнікаў — не менш 1 метра ад граніц садовага ўчастка. Гэтыя нормы змешчаны ў Тыпавым статуце садаводчага таварыства, п. 22.4.

**— Я хачу даведацца, колькі калгаснай зямлі ў вёсцы Хмялеўка Пятрышкаўскага сельскага Савета Мінскага раёна. Пенсіянерка Тамара Васільеўна Доўнар.**

— У населеных пунктах калгаснай зямлі практычна няма. Да 1991 года па старому заканадаўству ўсе землі населеных пунктаў знаходзіліся ў пастаянным карыстанні калгасаў і саўгасаў. І тады калгас або саўгас даваў зямлю ў вёсках грамадзянам як бы ў другаснае карыстанне. З прыняццем у 1994 годзе пастановы аб правядзенні зямельнай рэформы ў рэспубліцы ўсе землі населеных пунктаў былі забраны ў калгасаў і саўгасаў і перададзены ў распараджэнне сельскіх Саветаў. Так што цяпер землі населеных пунктаў не адносяцца да зямель калгасаў, саўгасаў. Хаця ў межах вёскі могуць быць участкі калгаснай зямлі: напрыклад, знаходзяцца гаспадарчыя пабудовы, фермы, гаражы. Дык вось па Хмялеўцы. Зямля яе знаходзіцца ў распараджэнні мясцовага сельскага Савета. Ёсць адзін участак больш за 100 га ў раёне гэтай вёскі, які быў адведзены ў 1988 годзе Мінскаму гарвыканкаму пад будаўніцтва індывідуальнага жылля жыхарам сталіцы. Галоўным забудоўшчыкам, калі не памыляюся, быў вызначаны завод «Гарызонт». Прадпрыемства ўжо сваім загадам замацавала зямлю за грамадзянамі. Аднак час змяніўся, і сёння вёска Хмялеўка, што разраслася за кошт будаўніцтва, «вісіць» у паветры. Сталічныя ўлады адмаўляюцца прымаць яе на баланс, і Заслаўскі гарвыканкам таксама, бо не вырашана пытанне будаўніцтва інжынерных камунікацый. Тут, напэўна, толькі валявым рашэннем можна штосьці змяніць.

**Карэспандэнт «Звязды»: — Напярэдадні «прамой лініі» ў рэдакцыю звярнуўся мінчанін Мікалай Уладзіміравіч Каралько. Сутнасць яго пытання наступная. Ці мае ён права на кавалак зямлі дзесьці ў полі, калі ўчастак, які пакінуў у спадчыну ў вёсцы бацька, складае 0,05 га?**

— Трэба звярнуцца ў мясцовы сельсавет. Калі свабодныя плошчы ёсць, рашэнне будзе прынята станоўчае, калі не — прыйдзецца задавальняцца тым, што ёсць. Калі ж, напрыклад, у спадчыну засталося 0,5 га, то, згодна з дзеючым заканадаўствам, увесь участак не застанецца, бо па закону гарадскому нашчадку прадастаўляецца ад 0,10 да 0,25 га зямлі для абслугоўвання жылога дома. З уступленнем у сілу новага Кодэкса аб зямлі нашчадкі змогуць прэтэндаваць на ўсю зямлю.

**Карэспандэнт «Звязды»: — Напрыканцы завочнай сустрэчы з чытачамі адкажыце, калі ласка, колькі зямлі сёння знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян?**

— Больш чым 376 тысяч жыхароў Беларусі распараджаюцца больш як 71 тысячай гектараў зямлі.

**— Дзякуй вам за «дзяжурства», Георгій Іванавіч.**

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтавала да друку Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# НА ВУЧОБУ Ў ЧЭХІЮ

У мінулую суботу ў чэшскі горад Табар выехала група кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў Гомельшчыны, якая цэлы тыдзень будзе ўдзельнічаць у семінары па асваенню вопыту ў трансфармацыі сельскай гаспадаркі. Арганізатарам паездкі з'яўляецца Гомельскае рэгіянальнае агенцтва эканамічнага развіцця, а семінара — чэшская фірма «Фармтэк», а фінансуе прадпрыемства Цэнтральная Еўрапейская Ініцыятыва за кошт сродкаў Еўрапейскага банка рэканструкцыі развіцця. Што гэты візіт будзе карысным, сумненняў няма, аб чым сведчыць першая стажыроўка групы кіраўнікоў гаспадарак вобласці ў саставе 12 чалавек у Чэхіі ў сёлетнім маі.

Тады ставілася задача папоўніць веды слухачоў па праблемах рэфарміравання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацыі кіравання, пазнаёміць іх з найноўшымі тэндэнцыямі ў гэтай галіне. Стажыроўка ўключала ў сябе як тэарэтычныя заняткі, так і наведванне шэрагу сельскагаспадарчых кааператываў Усходняй і Паўднёвай Чэхіі. Якія ж яе вынікі? Аб гэтым мне расказалі ў Гомельскім рэгіянальным агенцтве эканамічнага развіцця.

Апрача таго, што ўдзельнікі яе значна пашырылі свае прафесійныя веды, эксперыментальная база «Пянчын» Буда-Кашалёўскага раёна будзе набываць у фірмы «Фармтэк» новую тэхналогію па свінагадоўлі, а саўгас «Пірэвіцкі» Жлобінскага раёна — тэхналогію вытворчасці малака на прамысловай аснове і сто галоў цялушак. А ў Хойніцкім раёне ўжо распрацоўваецца праграма па ўкараненню элементаў чэшскай тэхналогіі ў жывёлагадоўлі для ўсіх яго гаспадарак. Сёння ўжо тры з іх, напрыклад, змянілі тэхналогію ўтрымання буйной рагатай жывёлы з ранейшай, менш эфектыўнай, на чэшскую. Гэта саўгасы «Стралічава», «Судкова», калгас імя Калініна, што дае добры плён.

Трэцяя паездка нашых дырэктараў саўгасаў і старшынь калгасаў на вучобу ў Чэхію ў сёлетнім годзе плануецца ў наступным месяцы, а ў перспектыве падобная стажыроўка пройдзе і ў калгасе імя Леніна Гомельскага раёна, які мае сумеснае прадпрыемства з фірмай «Фармтэк». У ёй будуць удзельнічаць чэшскія спецыялісты і кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў не толькі Гомельшчыны, але і іншых абласцей нашай рэспублікі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

КАМПЕТЭНТНЫ СУБЯСЕДНІК

# СТАЛІЦА З ВІДАМ НА «ЕЎРАПЕЙСКАСЦЬ»



- **КАЛІ АДЧЫНІЦЬ СВАЕ ДЗВЕРЫ ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ?**
- **ДЗЕ Ў МІНСКУ З'ЯВІЦЦА ПЕРШЫ ПАДЗЕМНЫ ТУНЕЛЬ?**
- **КОЛЬКІ ЯШЧЭ «БАМЖАВАЦЬ» ПОМНІКУ СКАРЫНЕ?**

***Згоду на інтэрв'ю з Віктарам НІКІЦІНЫМ я атрымаў у Сусветны дзень архітэктуры. Супадзенне, але тады ж адзначалася і Міжнароднае свята жылля і населеных пунктаў. Гэткі збег абставінаў, зразумела, павінен быў накіраваць плынь нашай гутаркі ў адпаведнае рэчышча. Тым больш, што мой суразмоўца — намеснік старшыні камітэта архітэктуры Мінгарвыканкама.***

**— Віктар Дзмітрыевіч, пасляваенны Мінск, як вядома, уяўляў сабою тэрыторыю, амаль цалкам пакрытую руінамі. Жудасная трагедыя горада, з іншага боку, давала архітэктарам магчымасць аднавіць сталіцу Беларусі на абсалютна сучасным узроўні. Як вы лічаце, ці ўдалося ім гэта ў апошніх паўстагоддзя?**

— Пачнём з таго, што сёння ў Мінску склаўся унікальны баланс забудаваных і вольных тэрыторый, вуліц ды паркаў. Такіх багатых на водна-зялёныя масівы і, так бы мовіць, прапарцыянальных гарадоў у Еўропе няшмат. Але каб падкрэсліць уласны твар сталіцы, на «шкілет» трэба налажыць адрэканструяваныя старыя кварталы, удалае новае будаўніцтва — гэта значыць надаць Мінску «еўрапейскасць» у дэталях: у помніках, вонкавым выглядзе вуліц, светлавой рэкламе.

**— У суседняй, скажам так, Маскве своеасаблівым сімвалам адраджэння горада стала будаўніцтва Храма Хрыста Збавіцеля. Які аб'ект мог бы прэтэндаваць на падобную ролю ў беларускай сталіцы?**

— Калі дбаць аб абуджэнні гістарычнай свядомасці мінчукоў, то вялікую карысць можа прынесці завяршэнне рэстаўрацыі комплексу Верхняга горада з яго найкаштоўнейшымі архітэктурнымі творамі: Свята-духаўскай царквой XVII стагоддзя, гарадской ратушай і гэтак далей. А ўвогуле, такога, як раней, калі ўсе сілы рэспублікі маглі быць кінуты на нейкі адзін аб'ект, няма.

Сёння шмат увагі кіраўніцтвам і, адпаведна, праекціроўшчыкамі горада ўдзяляецца будаўніцтву новых спартыўных пляцовак. Ужо ідзе да завяршэння рэканструкцыя стадыёнаў «Дынама» і «Трактар», на вуліцы Прытыцкага за некалькі месяцаў амаль узведзены шыкоўны лядовы палац. Яшчэ два хутка з'явяцца каля водна-спартыўнага камбіната (раён Батанічнага саду) і на перакрыжаванні Партызанскага праспекта з вуліцай Ванеева. Такім чынам будзе ліквідаваны недахват спартыўных аб'ектаў у асобных частках горада.

**— А што на чарзе?**

— Відаць, будаўніцтва сеткі новых гатэляў, якіх нестае зараз цэнтру Мінска.

**— Балючае пытанне: калі ўрэшце будуць уведзены ў дзеянне сумна вядомыя «даўгабуды»: Палац Рэспублікі, мінскі чыгуначны вакзал?**

— Апошні цвік у палац плануецца ўбіць яшчэ да 2000 года. Пасля чаго ў яго памяшканні мусіць пераехаць трупа Нацыянальнага тэатра оперы і балета, а тэатральны гмах на плошчы Парыжскай Камуны ўрэшце дачакаецца генеральнага рамонту. Што датычыць вакзала, то ў 2000-м запусцім яго асноўны корпус, распачнём комплексную рэканструкцыю абедзвюх прывакзальных плошчаў, сплятаючы пад імі павуцінне падземных пераходаў.

**— Дарэчы, як Мінск намерваецца выкарыстоўваць свае падземныя прасторы? Год таму «Звязда» закранала тэму так і не народжанага падземнага гандлёвага цэнтра на Кастрычніцкай плошчы.**

— Падземныя гарады, як у той Японіі, — гэта не самамэта. Найперш павінна з'явіцца патрэба ў іх. Нешта падобнае было з праектам пешаходнай вуліцы К.Маркса ў Мінску. Валявым рашэннем спрабавалі зрабіць яе тутэйшым Арбатам. Аднак без з'яўлення шматлікіх крамаў, кафэ, рэстаранчыкаў як ты вуліцу не перакрывай, а яна не стане ажыўленай. Гэтак жа і з падземнымі прасторамі: у нас наверсе, шчыра кажучы, аб'ектаў сацкультбыту пакуль не лішак, каб іх пад асфальт заганяць. Цяжка было б растлумачыць жыхарам мікраёнаў, чаму мы урбанізуем і без таго не абдзелены магазінамі цэнтр, пераманьваючы тым самым туды інвестара, які збіраўся пабудаваць супермаркет ва Уручы альбо ў Малінаўцы.

**— Апошнім часам у СМІ, асабліва маскоўскіх, гучала шмат прапаноў наконт зносу пяціпавярховак і будаўніцтва на іх месцы якаснага жылля. Наколькі актуальная гэта праблема для Мінска?**

— Тут мы наўрад ці пойдзем шляхам масквічоў. Хоць, наколькі я ведаю, і яны апошнім часам не надта актыўна зносяць 5-павярхоўкі. Бо ўсё ж танней правесці рэканструкцыю — з надбудовай мансарднага паверха, перапланіроўкай пакояў і санвузлоў. Праўда, часам узнікае нездаволенасць гаспадароў, якія атрымліваюць сваю адрамантаваную амаль пад «еўра» кватэру, але крыху паменшанай плошчы (дзякуючы, напрыклад, з'яўленню ў пад'ездзе ліфтоў). Аднак праблему можна вырашыць шляхам стварэння падменнага жыллёвага фонду.

**— Што ўяўляе сабой гарадская праграма «Двары»?**

— У сярэдзіне 90-х сталічны мэр Уладзімір Ярмошын паставіў задачу поруч з працай па добраўпарадкаванню вуліц, сквераў распачаць праграму па наданню сучаснага выгляду дваровым тэрыторыям. Спачатку яна мела назву «500 двароў». Ідэя зводзілася да таго, каб надаць прывабны выгляд таму асяроддзю, дзе кожны чалавек праводзіць, бадай, усё сваё жыццё. І гэта не проста касметычнае прыхарошванне. Аднаасава вядзецца работа па перапланіроўцы прасторы, бо кожны другі двор ужо сёння мае патрэбу ў дадатковых парковачных месцах для аўтамабіляў.

Сустракаліся мы, і не аднойчы, з неразуменнем, мякка кажучы, падобнай перабудовы. І што? Потым нават з суседніх двароў да нас прыходзілі з просьбай зрабіць «вось як у іх». Між іншым, праграмай плануецца ахапіць усе, без выключэння, гарадскія двары. Так што не здзіўляйцеся, калі пачуеце назву «1500 двароў», «2000 двароў» і гэтак далей.

**— Віктар Дзмітрыевіч, раскрыйце тайну, якія новыя мікраёны з'явяцца ў Мінску ў бліжэйшы час?**

— Мы маем праектна-каштарысную дакументацыю на забудову практычна ўсёй тэрыторыі ў межах кальцавой дарогі (а зусім нядаўна была зацверджана і гарадская праграма па азеляненню да 2002 года). Іншая справа, што ў сучасных эканамічных умовах штогод будуецца крыху больш за 300 тысяч квадратных метраў жылля (у 80-я лічба раўнялася 1 мільёну), таму ў бліжэйшай перспектыве наш сілы будуць кінуты на заканчэнне будаўніцтва мікраёнаў Малінаўка, Сухарава, Чырвоны Бор. Далей возьмемся за Лошыцу і Каменную Горку.

**— Аднаасава паўстае пытанне далейшага развіцця гарадской транспартнай інфраструктуры.**

— Ужо сёння вядзецца паэтапная рэканструкцыя мінскай кальцавой дарогі, праектуюцца некалькі буйных транспартных развязак. Нейкае дзесяцігоддзе таму ніхто са спецыялістаў нават не меркаваў, што ў горадзе адбудзецца такі ўсплёск аўтамабілізацыі. Цяпер у час «пік» на некаторых магістралях утвараюцца дагэтуль ніколі не бачаныя ў Мінску пробкі. Пад адной з такіх пастаянных «запруд» у 1999 годзе пачнецца будаўніцтва падземнага тунеля — ад вуліцы Леніна пад чыгунку з выхадам на Партызанскі праспект у раёне Трасцянецкай.

**— Але гэта надзвычай дорага!**

— Мы пралічвалі і надземны, і падземны варыянты. Калі ажыццяўляць першы, то над чыгуначнымі пуцямі трэба было б узводзіць магутную эстакаду з шэрагам складаных развязак. Капаць усё ж танней — яшчэ і таму, што зараз існуюць нявыкарыстаны патэнцыял Мінскметрабуда. Нам не трэба закупляць новае абсталяванне і запрашаць замежных спецыялістаў. Выпрабаваўшы ўласныя магчымасці на першым тунелі, мы, магчыма, прыступім да праектавання другога «нырца» вуліцы Леніна — цяпер ужо пад праспектам Скарыны.

**— Цікава, ці ёсць у вас у самога такі куточак горада, прыходзячы куды, вы адпачываеце душой?**

— Вельмі падабаецца мне новы выгляд Міхайлаўскага (Прывакзальнага) сквера. Атрымліваю сапраўдную асалоду ад закончанасці яго кампазіцыі. Часта падыходжу да скульптуры чароўнай Незнаёмкі, са з'яўленнем якой у парку замацавалася атмасфера рамантызму і, спадзяюся, увогуле пачалася эпоха не афіцыёзнай, а набліжанай да чалавека архітэктуры.

...Пасля размовы з Віктарам Нікіціным я не мог не завітаць у суседні кабінет да галоўнага мастака горада Аляксея Мартынава. Менавіта ён кіруе ўзвядзеннем у сталіцы помнікаў і скульптурных груп. Па словах спадара Мартынава, наступным летам у Мінску з'явіцца свой манументальны Пушкін. Гэты падарунак урада Масквы будзе размешчаны ў паркавай зоне каля гатэля «Беларусь». У скверы на Гарадскім вале атрымае прапіску бюст Адаму Міцкевічу, на бульвары Шаўчэнкі паўстане ў бронзе сам украінскі пясняр.

На жаль, так і не скончыліся шматгадовыя пакуты помніка Францішку Скарыне. Пасля таго, як кіраўніцтва Акадэміі навук запратэставала супраць яго ўстаноўкі каля свайго будынку (маўляў, «не ўпісваецца»), вырашылі «пасяліць» статую першадрукара на перакрыжаванні праспекта яго імя з вуліцай Філімонава, каля новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі. Але апошні толькі-толькі пачынае праектавацца. Так што яшчэ доўга быць Скарыне ў «бамжах». Далібог, неяк сорамна.

**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

---

СПАЖЫВЕЦ

## Лепш за каву можа быць толькі добрая кава...

**Новы конкурс на званне лепшай прадукцыі-98 аб'яўлены Беларускай экалагічнай партыяй і Беларускім таварыствам абароны спажыўцоў. На гэты раз, як паведамілі журналістам старшыня экалагічнай партыі Міхаіл Фрыдлянд і старшыня таварыства Вячаслаў Ліеў, прадметам пільнай увагі незалежных экспертаў з акрэдытаваных у нацыянальнай сістэме сертыфікацыі лабараторый і інстытутаў стануць кава, чай, кандытарскія вырабы і соусы. Дарэчы, спыніцца менавіта на гэтых групах тавараў спецыялістам прапанавалі самі спажыўцы, бо іх якасць выклікае апошнім часам асабліва шмат нараканняў.**

Конкурс будзе праводзіцца па наступных намінацыях: кава натуральная молатая, буйналіставы, дробналіставы і пакетаваны чай, горкі, малочны і дэсертны шакалад, шакаладныя цукеркі, карамель, пячэнне, вафлі і таматны соус. Сваю згоду на ўдзел у рэспубліканскім агульнагарамдскім конкурсе ўжо далі ААТ «Спартак», камбінат «Віцьба» і Глыбоцкі кансервавы завод. Спрачацца за званне лепшага прадукта гэтага года будзе таксама шакалад «Ідэал», кава «Tchibo», чай «Sir Kent», «Dheane-Te», «Tjibuni java» і многія іншыя прадукты.

Характэрны той факт, што ў ліку прэтэндэнтаў на атрыманне дыплома пераможцы няма мінскай фабрыкі «Камунарка» і расійскага АТ «Бабаеўскае», чыя шакаладная прадукцыя заўсёды лічылася адной з самых лепшых на тэрыторыі былога Саюза. Як патлумачылі арганізатары конкурсу, гэтыя прадпрыемствы перажываюць зараз не лепшыя свае часы. Так, на прычыне адсутнасці на «Камунарцы» сыравіны для шакаладных цукерак, у прыватнасці, зярнят какавы, прадпрыемства ўвогуле вымушана адмовіцца на пэўны час ад іх выпуску. А АТ «Бабаеўскае» вымушана сёння «змагацца» з расійскім пакупніком, які ў адказ на рэзкае павышэнне цэн на салодкую прадукцыю, аб'явіў ёй «забастоўку».

Па выніках конкурсу будуць складзены рэйтынгавыя табліцы тавараў, а яго пераможцы і лаўрэаты будуць адзначаны спецыяльнымі дыпломамі журы, якія змогуць потым выкарыстоўваць у рэкламных мэтах.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

---



## Пасля атрымання новага жылля службовая кватэра вяртаецца прадпрыемству

*Мой сын разам з сям'ёй з 4 чалавек жыве ў маленькай службовай кватэры (18 кв. м) у Гомелі. Сын працуе на заводзе аб'яднання «Гомельпрамбуд» і там жа стаіць ў чарзе на кватэру з 1988 года. Сыну 31 год, нявестцы — 29. Сям'я малазабяспечаная. Ці маюць яны права атрымаць субсідыю і льготны крэдыт на будаўніцтва жылля? Ці будзе вяртаца службовая кватэра пры будаўніцтве новага жылля?*

**Г. Андрыянец,** г/п Лоеў, Гомельская вобласць.

Як адказалі «Звяздзе» ў Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва РБ, сям'я сына спадарыні Андрыянец мае права на атрыманне льготнага крэдыту, а магчыма і субсідыі (як маладая сям'я), бо аднаму члену сям'і (жонцы) яшчэ не споўнілася 31 год. Для таго, каб маладая сям'я магла выкарыстаць свае права на атрыманне льготнага крэдыту, жонцы сына трэба звярнуцца з заявай і адпаведнымі дакументамі ў райвыканкам па месцы жыхарства. Пасля заканчэння будаўніцтва новага жылля службовая кватэра вызваляецца і застаецца на балансе прадпрыемства.



## Памада — на снеданне і на абед

*Прачытала ў адной з расійскіх газет, што за сваё жыццё жанчына з'ядае разам з ежай 11,5 кілаграма губной памады. Мужчынам жа, якія нас цалуюць, прыходзіцца з'ядаць 6 кілаграмаў жаночай касметыкі. У сувязі з гэтым хацелася б даведацца, што ж мы разам з імі ядзім і ці не адбіваецца гэта на нашым здароўі? А таксама аб тым, ці сапраўды існуюць суперустойлівыя памады, або гэта звычайны рэкламны трук вытворцаў.*

**Наталля Кісялёва,** г. Баранавічы.

Жаночая губная памада — гэта складаны хімічны прадукт, у састаў якога ўваходзяць воск, тлушчы, структураўтваральны парафін, алей, гліцэрына, сіліконавыя вадкасці, розныя растваральнікі, арганічныя і неарганічныя пігменты, араматычныя рэчывы, антыаксіданты і каніфоль. Гэта значыць, што кожны дзень жанчыны спажываюць практычна ўсю хімічную табліцу Мендзялеева.

Дарэчы, пакуль не скончыўся тэрмін годнасці памады, а ён складае ад 6 месяцаў да аднаго года, жанчыны нічым сур'ёзна не рызыкуюць. Аднак працягваючы выкарыстоўваць пратэрмінаваны тавар, жанчыны ідуць супраць сябе ў хімічную атаку, бо прадукты акіслення жывёльных тлушчаў вельмі таксічныя для арганізма.

Выявіць, калі менавіта скончыўся тэрмін годнасці вашай памады няцяжка: у яе тут жа з'яўляецца прагорклы пах або на алоўку памады з'яўляюцца ўшчыльненні тыпу манных круп і цёмныя плямы.

Да апошніх дасягненняў парфумераў можна аднесці суперустойлівую памаду «Revlon» і «Captif», якія і сапраўды могуць трымацца на губах на працягу ўсяго дня. Такая памада ідэальна падыходзіць для сучасных жанчын, якім не прыйдзецца хвалявацца падчас дзелавой сустрэчы за галоўную частку свайго макіяжу, бо і «Captif», і «Revlon» не расцякаюцца, не пакідаюць адбіткаў на зубах, кубачках і бакалах. Аднак майце на ўвазе, што «суперустойлівая» памада не можа ўстаяць перад любімі жывёльнымі тлушчамі, і калі вы вырашыце пачаставацца, скажам, марожаным, кавай з вяршкамі ці любой іншай тлустай ежай, то ваша памада проста раствсрыцца.

Для гарачага пацалунку «Revlon» і «Captif» таксама не падыходзяць, таму што ваш твар і твар вашага партнёра могуць пакрыцца пры гэтым ружавата-сінюшнымі плямамі, пазбавіцца ад якіх можна толькі пры дапамозе гарачай вады з мылам ці касметычнага малачка. Наўрад ці яны акажуцца ў гэты момант побач...



## Чаму бакалаўру не плацяць надбаўкі?

*У 1997 годзе я скончыла Брэсцкі дзяржаўны універсітэт са ступенню бакалаўра педагагічных навук. Прапрацавала год у вясковай школе, але абяцанай 10-працэнтнай надбаўкі да зарплаты не атрымлівала і не атрымліваю ў новым навучальным годзе. Паважаны «Пытальнік», наколькі правамоцным мае патрабаванні да бухгалтэрыі Берастравіцкага рана аб даплаце, бо там мне адказалі, што са з'явай «бакалаўр» сутыкнуліся ўпершыню?*

**А.Б. Паплаўская,** в. Кватары, Берастравіцкі раён.

Як растлумачылі ў аддзеле працы і заработнай платы Міністэрства адукацыі РБ, прэтэнзіі нашай чытачкі да бухгалтэрыі Берастравіцкага рана беспадстаўныя. Уся справа ў тым, што 10-працэнтная надбаўка да зарплаты выплачваецца ў нашай краіне толькі выпускнікам вядучых ВНУ рэспублікі. А іх у нас усяго пяць: гэта Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт, Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія і Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія. Брэсцкі дзяржаўны універсітэт у іх кола не ўваходзіць.

Прычым, права на 10-працэнтную надбаўку маюць толькі тыя выпускнікі са ступенню бакалаўра, якія атрымлівалі свае дыпломы ўжо пасля абвяшчэння іх навучальнай установы вядучай ВНУ у галіне. Так, напрыклад, сёлетнія выпускнікі БДПУ імя Танка атрымалі гэта права, а мінулагоднія — не, паколькі статус вядучай вышэйшай навучальнай установы ў галіне адукацыі быў прысвоены Беларускаму дзяржаўнаму педагагічнаму універсітэту толькі 1 верасня 1997 года.

---

*Сардэчна віншуем з 60-годдзем дарагую матулю* ***Антаніну Паўлаўну ПЕЦЮКЕВІЧ*** *з в. Яршы Уздзенскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця, вясёлага святочнага настрою.*

**Дачка, зяць, унукі,** *г. Мінск.*

# ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ ПРА КАТЭДЖ

**У Васіля Ігнатавіча і Таісы Віктараўны Масло трое дзяцей, і ўсе хлопцы. Старэйшыя ўжо заканчваюць школу, а малодшы ходзіць у дзіцячы садок. Васіль Ігнатавіч — вадзіцель, а Таіса Віктараўна — намеснік начальніка вытворчага ўчастка саўгаса з паэтычнай назвай «Пціч». Далей, праўда, нічога паэтычнага не будзе. Адна сухая проза.**

**Сям'я жыве ў невялікай двухпакаёвай кватэры, і як яна там жыве, можаце ўявіць. Таіса Віктараўна была ў чарзе другой, а потым і першай. Меркавалася, што яна атрымае катэдж жылой плошчай 54 кв. метры, што нармальна для такой сям'і. Але раптам у саўгасе змяніўся дырэктар. Ён прыбыў у маі, а ў ліпені яму выдзеліў катэдж. Як вы разумееце, той, на які прэтэндавала сям'я Масло.**

**Такім чынам, гісторыя пачынаецца вясной мінулага года, заканчэння яе пакуль не прадбачыцца.**

## ВАРАГ

Прыйдзецца парушыць адно старажытнае правіла, якое датычыць нябожчыкаў: пра іх альбо нічога, альбо добра. М.Я. Галавачоў, цяпер ужо былы дырэктар саўгаса, загінуў сёлетняй вясной. Прашу прабачэння ў родзічаў нябожчыка, але вымушаны штосьці пра яго пісаць. І пераважна дрэннае. Без гэтага не абысціся.

Сп. Галавачоў быў кіраўніком гаспадаркі ў Чэрвеньскім раёне, але адтуль яго звольнілі. 19 чэрвеня 1997 г. Мінскі райвыканкам заключыў з Галавачовым кантракт на 2 гады. Згодна з кантрактам, новы дырэктар павінен быў атрымаць жыллё на працягу паўгода. Яму, праўда, удалося вырашыць пытанне хутчэй: ужо ў ліпені сумесным рашэннем адміністрацыі (г. зн. самім Галавачовым) і прафкама дырэктару выдзеліў чатырохпакаёвую кватэру. Аднаму.

Яно б, можа, і нічога, ды Галавачоў, мякка кажучы, схлусіў. У дакументах ён указаў, што ў яго ёсць жонка, С.Н. Матусевіч, і двое дзяцей, 18 і 15 гадоў. Тут, дапусцім, усё праўда, апрача аднаго: з мая 1991 г. грамадзянка Матусевіч не з'яўляецца жонкай грамадзяніна Галавачова — шлюб скасаваны.

Затое — жыццё ёсць жыццё — Галавачоў уступіў у шлюб з грамадзянкай Сцяпанавай, вынікам чаго, натуральна, з'явілася дзіця. Гэта ўвогуле нармальна, але засмучае адна дэталь: шлюб зарэгістраваны ў лістападзе 1997 г., а катэдж дырэктару далі ў ліпені. Як ні круці, з усіх бакоў рашэнне прафкама было незаконным.

Праўда, пакуль гэта высвятлілася, новая жонка Галавачова спакойна жыла ў катэджы. Там жа пасяліліся яе родзічка і сяброўка з Чэрвеньскага раёна. Сцяпанаву ўзялі на работу ў мясцовую Старасельскую школу, але зараз яна знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску.

А Таіса Віктараўна па старой нашай традыцыі пачала пісаць у высокія і не вельмі інстанцыі. Чым гэта для яе скончылася, заслугоўвае асобнага аповяду.

## ПРЭСІНГ

Ніколі б не пачала скардзіцца, падкрэслівае зараз Таіса Віктараўна, калі б дырэктар Галавачоў не стаў на яе ціснуць усімі магчымымі спосабамі. Першы і самы надзейны, вядома ж, звальненне. З верасня мінулага года дырэктар у загадзе аб'яўляе Масло вымову з «апошнім папярэджаннем» за адсутнасць на рабоце 2 верасня. Пры гэтым Галавачоў недаравальна спяшаецца: ужо 4 верасня ён сваім загадам звальняе Таісу Віктараўну за ўсё тую ж адсутнасць на рабоце. Але ў дырэктара атрымліваецца халасты стрэл. Па-першае, за адно і тое ж парушэнне нельга караць двойчы, па-другое, парушэння і не было — Масло на рабоце была, што пацвердзілі сем камбайнераў.

Таіса Віктараўна звярнулася ў райкам прафсаюза. Там пацвердзілі: звальненне незаконнае, а камісія па працоўных спрэчках загад дырэктара адмяніла 22 кастрычніка.

Аднак, дырэктар усё не супакойваўся і 7 кастрычніка аб'явіў Таісе Віктараўне яшчэ адну вымову. Таксама пазней адмененую, як незаконную. Прэсінг працягваўся.

Галавачоў пераводзіць Масло з пасады агранома намеснікам начальніка ўчастка ў в. Пціч, куды транспарт не ходзіць і нікто не павязе. Справа даходзіць да адкрытых пагроз. Старшыня прафкама Шалкоўскі перадае Таісе Віктараўне словы дырэктара: «Аддай ёй (Масло. — С.Ш.) барак, абы рот закрыла». Паколькі жанчына рот закрываць не збіралася, Галавачоў аднойчы выклікаў Таісу Віктараўну ў кабінет і спытаў: «Што цябе прымушае пісаць?» — «Вы».

Кансенсусу дасягнуць не ўдалося.

Ды і як яго дасягнеш, калі мінулай жа восенню райкам прафсаюза «ўстанавіў шэраг парушэнняў жыллёвага заканадаўства РБ пры выдзяленні жылля Галавачову М.Я.» і прапанаваў прафкаму саўгаса «вырашыць пытанне». А начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Мінскага райвыканкама Грынкевіч паабяцаў, што «парушэнні... будуць выпраўлены»», яшчэ ў лістападзе 1997 года. Свой намер сп. Грынкевіч пацвердзіў таксама ў снежні. А потым яго перавялі некуды ў іншае месца. Таіса Віктараўна працягвала спраўна атрымліваць афіцыйныя пацвярджэнні сваёй праўды і жыць у цеснай двухпакаёўцы. Самае смешнае, што і на яе кватэру ёсць прэтэндэнт — слесар гэтага ж саўгаса.

Між іншым, у Старым Сяле гэта не першы такі выпадак. Нейкі час таму памерла бабулька і пакінула пасля сябе аднапакаёўку. Яе самавольна заняў саўгасны вадзіцель з жонкай і двума малымі дзецьмі. Тут адміністрацыя адрэагавала аператыўна: не прайшло і месяца, як вадзіцель быў выселены з дапамогай міліцыі. І здарылася гэта напярэдадні зімы.

Што называецца, адчуйце розніцу. Адчуваем...

## ТЫЯ Ж І ПАНЦЯЛЕЕЎ

Далей падзеі развіваліся так. 19 студзеня ўжо гэтага года прафкам адмяняе сваё ж рашэнне аб выдзяленні катэджа Галавачову. У сакавіку дырэктар трагічна гіне. Райвыканкам заключае кантракт з Віктарам Цімафеевічам Панцялеевым і ён становіцца чарговым дырэктарам саўгаса «Пціч» (дырэктары тут мяняюцца вельмі часта).

Прыход новага начальства цягне за сабою перасяленне паштовага аддзялення ў саўгасную кантору. У вызваленых такім чынам будынак уязджае сп. Панцялееў. Праўда, цяпер гэта жыллё лічыцца службовым. Таіса Віктараўна працягвае спробы вырашыць сваё жыллёвае пытанне, натхнёная паспяховасцю яго вырашэння начальствам. Дырэктар адсылае яе да старшыні прафкама, той — да дырэктара. Старая казка пра белага бычка...

У лютым г.г. Таіса Віктараўна атрымала адказ на свой зварот у Адміністрацыю Прэзідэнта. Яго пераслалі ў аблвыканкам і адтуль, у прыватнасці, пішуць у адказе: «У саўгасе «Пціч» устаноўлена чарга маючых патрэбу ў паляпшэнні ўмоў жылля, згодна з якой праводзіцца размеркаванне уводзімага ў гаспадарцы жылля. Вы ва ўказаным спісе стаіце ў агульнай чарзе пад № 7, у льготнай — пад № 1. Пытанне размеркавання жылля ў саўгасе ўзята пад кантроль райкамам прафсаюза работнікаў АПК. Размеркаванне жылля будзе праводзіцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам».

Адным словам, справа заканамерна перацякла ў рэчышча судовай улады. У канцы лета адміністрацыя саўгаса афармляла дакументы для звароту ў суд «з іскам аб устараненні перашкод карыстання маёмасцю (кватэрай № 1 у доме № 1 па вул. Маладзёжнай у в. Старое Сяло) да грамадзянкі Сцяпанавай Л.Н., якая пражывае ў дадзенай кватэры», як сказана ў чарговым адказе Таісе Віктараўне на яе ж чарговы запыт.

Першае судовае пасяджэнне адбылося 2 верасня, і грамадзянка Сцяпанава на яго не прыехала. Другое было 19 кастрычніка, усе былі на месцы, але, кажуць, няправільна афармілі іск. Трэцяе, і, хочацца спадзявацца, апошняе, пасяджэнне суда прызначана на 11 лістапада.

Калі загінуў папярэдні дырэктар, у «Пціч» прыязджаў старшыня райвыканкама і, па словах Таісы Віктараўны, загадаў Сцяпанаву не высяляць, яна, маўляў, сама зразумее. Сцяпанава не зразумела. Я магу затое зразумець яе: малое дзіця здымае ўсе пытанні. Саўгас, праўда, прапанаваў ёй жыллё ў бараку, але грамадзянка Сцяпанава горда адказала: «Я не жывёла». І тут яна мае рацыю. Але тады, выходзіць, жывёлай з'яўляецца Таіса Віктараўна?

Па вялікаму рахунку, да Сцяпанавай не можа быць ніякіх прэтэнзій. У чым яе віна? У тым, што так няўдала змяніла свой лёс? Так што яна толькі ахвяра. Як, дарэчы, і Таіса Віктараўна Масло. Сказаць, аднак, што абедзве жанчыны ёсць ахвяры абставінаў, язык чамусьці не паварочваецца. У абставінаў ёсць, скажам так, імёны і прозвішчы.

## КАНЧАТКОВЫ ДЫЯГНАЗ

Таіса Віктараўна ў саўгасе «Пціч» — з 1977 года. Загад былога дырэктара аб яе звальненні (незаконны) быў першым дысцыплінарным пакараннем у працоўнай біяграфіі. Ды і пры чым тут яе заслугі? Яна мае ўсе правы, гарантаваныя Канстытуцыяй, і гэтага, памойму, дастаткова.

Гарант Канстытуцыі, як вядома, прэзідэнт. Паколькі ў кожную шчыліну ён не можа ўлезці фізічна, частку сваіх паўнамоцтваў у гэтым пытанні ён перадае мясцовай уладзе. У гэтым сэнсе нават звычайнага старшыню прафкама можна лічыць таксама гарантам Канстытуцыі. Як гэта ні смешна гучыць. Карацей кажучы, вось такая схема вымалёўваецца.

На жаль, яна толькі вымалёўваецца, а ў рэальнасці вельмі і вельмі часта працуе некалькі свавольна. Так бы мовіць, па-валютнарысцку (мяркую па калькасці скаргаў, падобных адна на адну, якія прыходзяць толькі праз мае рукі). Я гэта да таго, што ў членаў прафкама саўгаса «Пціч» ёсць зусім канкрэтныя імёны і прозвішчы. І вось яны прымаюць рашэнне выдзеліць катэдж дырэктару саўгаса, не пацікавіўшыся нават яго сямейным становішчам. Ім дастаткова таго, што ён — дырэктар. Не палічыце мяне беззадзейна наіўным чалавекам, але, па ідэі, прафсаюзы павінны абараняць інтарэсы наёмных рабочых у той жа ступені, як і іх кіраўніка, дарэчы, таксама наёмнага.

Зараз Мікалай Вячаслававіч Шалкоўскі кажа, што Галавачоў зрабіў непрыстойна, схлусіў, іншымі словамі. Ну, вядома... Аднак хто вам перашкаджаў ажыццявіць элементарную праверку, прасцей сказаць — паглядзець у пашпарт? Гэту функцыю ўзяў на сябе Мінгаз, які праводзіў газ у катэдж Галавачова і запатрабаваў у яго даведку аб сямейным становішчы.

Зараз старшыня прафкама абяцае мне «ўсё расказаць» пасля суда. Малайчына, Мікалай Вячаслававіч. Зноў за старшыню нехта зробіць яго работу: цяпер вось суд. А старшыня прафкама будзе праводзіць у жыццё чарговае рашэнне. Недзе я яго разумею: асабіста Мікалай Вячаслававіч усе свае праблемы, як жыллёвыя, так і матэрыяльныя, даўно вырашыў. У яго, напрыклад, чатырохпакаёвая саўгасная кватэра, вельмі прыгожы (сам бачыў) катэдж у суседняй вёсцы.

Нічога не маю супраць і толькі вітаю, калі чалавек з'яўляецца ўладальнікам салідай маёмасці. Толькі хачу падкрэсліць, што сыты галоднага не зразумее ўсё роўна. Мікалай Вячаслававіч — сыты, Таіса Віктараўна — галодная. Фігуральна, вядома. Хаця, можа быць, і літаральна: зарплата Таісы Віктараўны да павышэння «мінімалкі» была 1 мільён 320 тысяч, яе мужа — менш мільёна. На гэтыя грошы, канешне, харомін не адбудуеш.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

---

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ*

# «КРЫШТАЛЬ» «ШТАМПАВАЛІ» Ў ГАРАЖЫ

Уласны падпольны бізнес у Мінску наладзілі жыхары сталіцы — мужчына і жанчына, якія для сваіх мэтаў знялі гараж у Ленінскім раёне. Ужо са студзеня цэх па вырабу фальсіфікаванай гарэлкі запрацаваў на ўсю моц: хадавы тавар, вырабам якога дзень і ноч займаліся махляры, прыносіў добрыя прыбыткі. Аднак у справу ўмяшаліся супрацоўнікі міліцыі: мужчына затрыманы і знаходзіцца ў ізалятары, а яго партнёрка пакуль гуляе на свабодзе пад падпіску аб нявыездзе.

Аб размаху бізнесу махляроў, якія вырашылі забяспечыць уласнай прадукцыяй як мага болей аматараў «зялёнага змея», можна меркаваць хаця б па канфіскаваных рэчавых доказах. У ходзе аперацыі ў іх канфіскавана 800 літраў спірту, 1000 бутэлек фальсіфікаванай гарэлкі «Крышталь», 680 бутэлек віна «Белая вежа», каля 11 тысяч коркаў і этыкетак, прыстасаванні для закаркоўвання бутэлек.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# САБАКА БЫВАЕ КУСЛІВАЙ

Спецыялісты аварыйна-выратавальнага атрада «Віцязь» прыбылі на выклік 28-гадовага віцябляніна, які прасіў абараніць яго ад уласнага сабакі. Пакусанаму гаспадару ўдалося зачыніць ратвейлера ў ванным пакоі, адкуль выратавальнікі з дапамогай сеткі і мяшка выцягнулі шалёнага сабаку і даставілі ў ветлячэбніцу. Гаспадару прыйшлося звярнуцца ў бальніцу.

Паводле даных пракуратуры Віцебскай вобласці, 2978 чалавек, якія пацярпелі ад укусаў сабак, летась звярталіся па медыцынскую дапамогу. Сёлета на чатырохногіх сяброў паступіла 2397 скаргаў, за паўтара года ў судах разгледжана 16 спраў па ісках пацярпелых грамадзян.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

# МАНЬЯК-ЗАБОЙЦА ЗАТРЫМАНЫ?

У канцы 1996-га і ў пачатку 1997 года па Брэстчыне пракацілася хваля забойстваў, якія былі падобныя адно на адно. У Брэсце, Брэсцкім і Кобрынскім раёнах былі знойдзены целы чатырох мужчын. І вось праз два гады, падобна, падазраваемы ва ўчыненні гэтых злачынстваў знойдзены. Ім з'яўляецца рабочы адной з устаноў Брэста, затрыманы 13 кастрычніка з сувязі з падазрэннем у забойстве ў сваім доме вахцёра інтэрната Брэсцкага дзяржуніверсітэта. У затрыманага канфіскаваны пісталет «ТТ» 51-га года выпуску. Следства працягваецца.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

---

*СПАЖЫВЕЦ*

# «КАМАНДУЕ» ДОЛАР

**У мінулую нядзелю Цэнтральны гродзенскі рынак быццам бы працаваў у звычайным рэжыме: не пуставалі гандлёвыя прылаўкі, не бракавала наведвальнікаў. Аднак, калі больш уважліва прыглядзецца да сітуацыі, пагутарыць з прадаўцамі і пакупнікамі, дык перамены відавочныя. На жаль, не ў лепшы бок.**



У адной жанчыны літаральна адняло мову, калі яна даведалася, што за 250-грамовую бляшанку кавы «Nescafe classic» трэба выкладзіць 730 тысяч рублёў. Пасля паўзы на асэнсоўванне гэтай лічбы яна прыгадала, што яшчэ нядаўна купляла такую ж каву за 380, потым за 440 тысяч рублёў, і ў роспачы зрабіла высновы: «Цяпер для мяне ўжо кава стане раскошай». Дарэчы, кава «Sido» таксама рэзка падаражэла: стограмовы пакецік у нядзелю каштаваў 100 тысяч рублёў.

— А мы што, вінаватыя? — парыруюць з другога боку прылаўка. — Тавар — завозны, і самі ведаеце, што цяпер робіцца з доларам.

Сапраўды, «зялёныя» з «чорнага» рынку за 150—160 тысяч рублёў (у «абменніках» чаго «лавіць»?) дыктуюць цэны на імпартны тавар. І ў пройгрышы не толькі пакупнікі. Па словах гандляркі кавай, за дзень можна не рэалізаваць ніводнай бляшанкі. Аналагічныя праблемы і ў прадаўцоў іншага імпартнага тавару — зубной пасты, набору для галення... Цэны такія, што іх нават псіхалагічна цяжка ўспрыняць, не гаворачы ўжо пра тое, што мала хто ў нас атрымлівае зарплату ў доларах, а значыць, немагчыма ўгнацца за яго курсам.

З усёй імпартнай прадукцыі, як падалося, найбольшым попытам (хаця і ён па сезонных і цэнавых прычынах спаў) карыстаецца алей. Самая танная літровая бутэлька ў нядзелю каштавала на рынку 180 тысяч рублёў. Гандляры, якія працуюць больш маштабна, у гэтай сітуацыі яшчэ неяк «круцяцца». А вось адзін гродзенскі пенсіянер, які ездзіў у Літву за некалькімі партыямі кавы і алею, вырашыў пакуль гэты бізнес згарнуць. Па яго словах, з улікам пакупкі долара на «чорным» рынку, расходаў на бензін і вымотвання нерваў на мяжы аўчынка не варта вырабу.

У рыбным аддзеле Цэнтральнага гродзенскага рынку раней было літаральна не праціснуцца, а цяпер — свабодна. Беларускі карп пагоды тут не робіць, а на свежамарожаны мінтай па 175 тысяч рублёў за кілаграм ахвотнікаў няшмат. Затое здзівілі хаця і невялікія, але чэргі ля гандлёвых палатак за цукрам па 73 тысячы рублёў. Нічога дзіўнага, паколькі на іншым гродзенскім рынку за венгерскі цукар прасілі 85 тысяч. А на айчынны цукар, які на мінулым тыдні з'яўляўся ў продажы па цане 43 тысячы з нечым, натрапіць цяжка. Нягледзячы на нормы водпуску ў адны рукі, ён адразу ж змятаецца з прылаўка.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*Неяк у інтэрв'ю Мікола Станкевіч шчыра прызнаўся: «Каля трыццаці гадоў жыву ў Мінску, а так цягне на вёску, дзе некалі рос!.. Аднаго разу дык нямала прастаяў у адзіноце на бацькоўскім пляцы, прасіў зямельку тую, каб даравала мне, прыняла маё пакаянне. Я ж тады малады быў, неразумны, здрадзіў, лічу, ёй. Таму цяпер пісаць пра сваіх вяскоўцаў — сумленных, адданых зямлі — і рука цягнецца, і душа рвецца... Пісаць пра іх. І для іх».*

*Так спадар Мікола і робіць. Яго творы друкаваліся ў «Звяздзе», у «Рэспубліцы», «Беларускай ніве», «Настаўніцкай газеце», іншых рэспубліканскіх перыядычных выданнях.*

*Андрэй ФЕДАРЭНКА.*

**Мікола СТАНКЕВІЧ**

# НЯМЕЦКІ ПЛУЖОК

**Навела**

Была нядзеля. А завядзёнка вядомая — у нядзелю работы не чапай. Баба да царквы пайшла, дык Антось лынды біў з самага ранку. Ды ляпнулі раптам дзверы ў хату. Выглянуў у сенцы — Адам атрасае снег з валёнак. «Ну, нешта ж пільнае ў чалавека,— рахаваў для сябе Антось.— У хаце вунь ужо колькі не быў».

Павіталіся. Закінуў Адам пра надвор'е. Зімы, кажа, сапсаваліся — учора гразюка была, а сёння ўжо і снег сыпануў.

— Ну дык мне ў маім кажушку і ўзімку ўжо горача,— падтрымаў гаспадар.— Сядай, Адаме.

Зняў Адам ватоўку, неяк дужа асцярожна паклаў яе на зэдлік, прыткнуўся побач сам. Але і гаворка некуды прапала. Першы не стрываў Антось:

— Можа, патрэба якая ў цябе?

— Няма патрэбы,— наморшчыў лоб Адам, але тут жа перамяніўся з твару:— Не, чакай... Патрэба ёсцека,— пачаў корпацца ў ватоўцы.— Во яна, гэтая патрэба!— рэзкім рухам выцягнуў пляшку самаробнай жытнёўкі і паставіў яе пасярод стала.

— Дык а што будзем святкаваць?— ускінуў бровы Антось.

— Не ведаеш хіба?— падзівіўся госць.— Не чуў, што сцяну тую ў Берліне пабурылі? А немцы дакляравалі ўсім нашым, хто ў палоне быў, маркамі заплаціць. — Адам змоўк, чакаў, што будзе казаць Антось.

— Ну, ствараецца ж нешта,— паціснуў плячыма чалавек.

— Гм, каб не стваралася, то, можа, і не зайшоў бы, во, да цябе,— настойліва хіліў некуды Адам.— Ні камуністаў табе, ні буржуяў. Браты ўсе цяперака.

Памаўчалі. Але хвіліну— не болей. Разгаманіліся. Было пра што— не маладзёнкі ж абодва. Адам і Антося разгаварыў— усплыло, як ладзілі калгас:

— А ці ведаеш, Адаме, як зямельку адабралі і ўсё з двара сцягнулі, дык у мяне так расшчымеліся зубы. І так ужо шчымелі, што праз год і павывальваліся. Пярэднімі толькі і ем. З таго часу.

— А помніш, Антоська, быў у цябе плужок за немцамі, нямецкі?— прыцішыў голас Адам.

— Ото ж адмысловы быў плужок,— прыцмокнуў Антось.— На калёсцах. Дык, глядзі, пастаўлю яго з канца поля, адной рукой— за плуг, у другой— самакрутка. І арба, і курба— усё разам. Здаволіцца з яго не мог.

Гэта ж немцы, па ўсім відно, надоўга тут хацелі атаўбавацца. Нашто ж тады было ім краму ў мястэчку адчыняць? І не дзеля харчоў якіх там, а для начыння ўсякага гаспадарчага. Дык за плужок і ўчапілася тады Антосева вока. Купіў.

— Збяёдаў я той плужок... Як немцы ўцякалі. Разабраў яго нагладка, а часткі па ўсіх кутках параспіхваў. Дык і пагніло ўжо многа чаго. А лемяхі тыя дык і цяпер... у застрэшку,— Антось не мог схаваць свайго жалю ад страты такога набытку, хоць не сёння і не ўчора гэта было.

— Шкадуеш, значыцца... Гэта я вінаваты. Гэта ж я падказаў табе тады ад плуга таго аслабаніцца. Я падбухторыў цябе... Помніш, браток? Так што павініцца вот і заскочыў,— павольна, далонню, быццам здымаў з сябе якое павуцінне, аціраў свой твар Адам.

Сумеўся Антось: «Калі гэта было? Пра якія гэта падказкі Адам баіць?» Гэта ж ён, Антось, сам забаяўся залезці, як кажуць, у нерат.

— Не крыўдуй... Ратаваў я цябе, браток,— няспешна вініўся Адам.

Антось перабіраў у галаве тыя даўнія дні. Не, гэта ён, Антось, сам спужаўся, што будуць Саветы пасля вайны ізноў калупацца...

— Сам ведаеш, плойму людзей, да вайны яшчэ, сагналі ў Сібір,— развагжаў Адам.

Вось-вось. Таму Антось і падтуліў тады хвост. З-за нейкага няшчаснага плужка каб у Сібіры той патыліцу чухаць?.. Дык Адам тут, прыкінуў Антось, з боку прыпёку.

— Часу столькі, Антось, я маўчаў. Не чапаў таго. Разварушу даўняе, дык злаваць, думаў, будзеш на мяне. Падумаеш, што я завідушчы які, раз ахвоціў цябе ад плужка таго адхрысціцца. Бо каб не ўгаварыў цябе тады, то і сёння цешыўся б ты, браток, на цацку сваю,— Адамавы вочы блукалі па сценах, так ужо карцела чалавеку выгаварыцца.

Хапіла, бацюхна, усім. Пры панскай Польшчы дык і жыць ужо пачыналі амаль што заможна. Але першыя Саветы прыскакалі. Гады праз два— ізноў галопам, на конях ляцелі Саветы. У другі толькі ўжо бок, назад. Танкі нямецкія— за імі. Яшчэ гадоў колькі— немцы назад. Ізноў Саветы, другія ўжо... Не тое, хто ўладу браў, клапаціла Антося. Свярбела яму іншае. Тое, што ад дзядоў і прадзедаў дасталося,— хлебаробскае. А тут «уладары» розныя вэрхал гэты чынілі. Толькі шкода была ад яго.

— Адаме, што ты ўсё бэсціш сябе? Плужок той... Дык я сам захацеў тады спляжыць яго. Сам!— махнуў рукой Антось.— Сам збаяўся.

І тут— забразгаталі дзверы. «Баба йдзе»,— пераглянуліся Антось з Адамам. Не памыліліся мужыкі. З парога ўжо віталася Антосева Стася.

— А чаго ж ты, Антоська, бутэльку выставіў, а закусі не даеш? Скнара ты мой такі,— рухавая жанчына, відно было адразу, кіраваць мужыкамі любіла.

Тут ужо не Антось— на Адама, не Адам— на Антося глядзелі. Абодва ўтарапіліся на бутэльку. Нераскаркаваную. Нечапаную. Забытую. Хвіліну і— зарагаталі мужчыны. Такі пакаціўся тут рогат... Не варушылася, укопанай стаяла перад імі, дзівакамі такімі, Стася. У Антося дык і слёзы ад рогату таго пацяклі. Засумнявалася Стася: «Ці не расціснулі яны ўжо першую, а гэта— другая?»

А мужчыны ўсё рагаталі. Потым, нібыта згаварыўшыся, падхапіліся з-за стала. І ўсё рагочуць, як на той корак добра наступіўшы.

— Да-фай... уш-шо... хляснем,— Антосевы пашчэнкі не стуляліся ад смеху.

— Ат, харыць яно... харам хай... не пу-дзем,— цісн уў праз рогат Адам.

...Вяртаўся Антось у хату— Адама правёў ажно да гасцінца. Развіталіся. Без рогату ўжо. Спакойна і паважліва. «Праўду кажа Адам. Не ў пляшцы той дзела,— думаў Антось.— Бач ты, гэтулькі гадоў чалавек насіў пры сабе, як ён кажа, грэх. А скуль жа ў яго грэх? Не мы сабой, а намі кіравалі. Закілзаюць то адны, то другія, і— паганяюць. І ні ўлева табе, ні ўправа. А ў кожную галаву— страху такога панапіхаюць...»

...Блізіўся дадому і Адам. «Ну, хоць трохі скінуў з плеч тое, старое... Не, не скінеш усяго, Адаме,— прыкідваў ён, думаў-думаў:— Ніколі не скінеш... Сказанае, хай сабе і некалі, слова да губы не вернеш. І, мусіць, ніякая споведзь рады тут не дасць...»

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

## ХЛОПЕЦ ПАШАНЬКУ ПАХАЕ

У 70-я гады ансамбль «Песняры» шырока разнёс па свеце жартоўную беларускую народную песню «Хлопец пашаньку пахае». Аднак у ёй за камічнымі малюнкамі праглядалася суровая рэчаіснасць, заўважалася неўладкаванасць маладой сям'і. Якраз гэтыя моманты песні лірычна асвятліў малады спявак Данчык (Багдан Андрусішын), які ўключыў яе ў свой рэпертуар пасля гастроляў «Песняроў» на Амерыканскім кантыненце.

Песня «Хлопец пашаньку пахае» існуе ў варыянтах. Запісы зроблены рознымі фальклярыстамі. Апрацоўку рабілі многія кампазітары.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




Хлопец пашаньку пахае,
ой-ёй-ёй!
Ў яго сошанька крывая, ой,
божа ж мой!*
Прыйшла к яму чарнявая,
Вазьмі ж мяне, хлопец, замуж.
Дзеўка замуж захацела,
Ледзь уся не абамлела.
Хлопец здуру ажаніўся,
Навек жонкай падавіўся.
Ані лыжкі, ані міскі,
Павесілі тры калыскі.
Ля калыскі трэба нянькі,
А ля печы — кашаваркі.
Даў ёй хлопец тры капейкі;
— Пайдзі купі хлеба, солі.
Хлеба, солі не купіла,
На базары заблудзіла.

** Прыпевы «Ой-ёй-ёй!» і «Ой, Божа ж мой!» паўтараецца адпаведна пасля 1-га і 2-га радкоў кожнай страфы.*

## ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншуюць дарагую, любую, ласкавую бабулю Соф'ю Іосіфаўну ПРЫШЧЭПУ з днём нараджэння дзеці і ўнукі. Жадаюць моцнага здароўя, бадзёрасці і доўгіх гадоў жыцця.*

в. Заастравечча Клецкага раёна.

*Мамачка наша родная, Лідзія Паўлаўна ЛУК'ЯНАВА. З днём нараджэння цябе мы віншуем, дабрабыту, шчасця і радасці ў жыцці табе жадаем.*

**Дачка Іра, зяць, унукі**, в. Швабы.

*Шчыра віншуем з днём нараджэння Марыю Мікалаеўну КУЛЬ з в. Ракевічы Навагрудскага раёна. Няхай здароўе, шчасце і дабрабыт будуць вечнымі спадарожнікамі ў вашым жыцці.*

**Калектыў работнікаў Вераб'евіцкай школы.**

*Дарагога сына і брата Алега Міхайлавіча РАЗНОЎСКАГА віншуем з днём нараджэння. «Желаем благ тебе земных, мы знаем твердо — ты достоин их, счастья, доброты, здоровья, радости, любви».*

**Мама, цётка Галя, Жанна.**

*Віншуем дарагога пляменніка Артура Аляксандравіча ЦЯЛЕГА з днём нараджэння. Жадаем усяго самага найлепшага, радасці, шчасця і моцнага кахання.*

**Родныя** з Мядзела.

*Даярцы саўгаса «Будагова» Анастасіі Пятроўне ФІЛІПОВІЧ спаўняецца 55 гадоў. Віншуем!*

*«Мы цябе любім і радуемся, калі з'яўляешся ты.*
*Хай гэта застанецца паміж намі, суседзямі і раднёй, назаўжды».*

**Суседзі, радня** в. Тачылішчы Смалявіцкага раёна.

*Сардэчна віншуем дарагога сына, любімага бацьку Леаніда Аляксандравіча ПЯТРОЎСКАГА з днём нараджэння. Жадаем здароўя, аптымізму і мужнасці, вялікага зямнога шчасця.*

**Бацькі, сыны,** в. Каўгары.

*Віншуем Дзмітрыя Уладзіміравіча ДУБЕШКУ з в. Даманава з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у працы, быць каханым і кахаць.*

**Сям'я Раманавых.**

***Я І МАЯ СЯМ'Я***

**Наталля НАВАЖЫЛАВА:**

# «ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ СВАЙГО СЫНА І БЕЛАРУСКІ НАРОД»

***Напэўна, імя Наталлі Наважылавай не мае патрэбы ў прадстаўленні. Кожны дзень на Беларускім тэлебачанні мы можам бачыць яе праграму «Урокі Наталлі Наважылавай» і займацца аэробікай разам з ёю.***

Пра сваіх былых жаніхоў Наталля Мікалаеўна расказваць адмовілася, дадаўшы: «Многія любяць аб гэтым расказваць, а я не хачу. Мой адзіны мужчына — гэта мой сын, з якім я зараз жыву адна». З гэтага пытання і пачалася наша размова.

— У мяне ёсць сын Віктар, яму трынаццаць з паловай гадоў і вучыцца ён у 54-й школе-гімназіі. Канешне, яму цяжкавата вывучаць столькі прадметаў, але я ведаю, што веды ніколі нікому не былі перашкодай. Акрамя ўсяго, ён займаецца каратэ ў спартыўным клубе «Алімп». Мой сын вельмі клапатлівы.

Вось зараз я на рабоце, а ён мне заўсёды патэлефануе, каб спытаць: «Мамачка, як тваё здароўе, як настрой, што табе прыгатаваць на вячэру?» І калі я, стаміўшыся, прыходжу дадому, ён абавязкова штосьці прыгатуе: зварыць кашу, напячэ бліноў, зробіць салату. Яшчэ ён заўсёды прыбярэ ў кватэры, памые посуд. Таму наша сям'я вельмі дружная, і я стараюся сябраваць з сынам. Зусім нядаўна мы з ім пайшлі на канцэрт групы «ДДТ», якую ён вельмі любіць слухаць. Апрануліся, як рокеры: скураныя курткі панадзявалі, джынсы. Купілі білеты на танцавальную пляцоўку, і я сярод гэтай моладзі таксама скакала пад песні Шаўчука. Сын заўсёды бярэ мяне з сабой на дыскатэкі, таму што я разумею яго ў гэтым плане і ніколі не кажу, што музыка, якую ён слухае, мне не падабаецца. Летам ён адпачываў 24 дні ў сонечнай Балгарыі, таму што дачы ў нас няма. Там ён трэніраваўся: займаўся футболам і плаваннем.

**— Вы свайго сына з дзяцінства прывучаеце да спорту?**

— Так. Ён прыходзіць да мяне ў трэнажорную залу. Але ён не вельмі спартыўны хлопчык, больш за ўсё любіць пасядзець дома, за камп'ютэрам. І я, як маці, у гэтым сэнсе яго разумею.

**— Наталля Мікалаеўна, якія якасці вы цэніце ў сваім сыне?**

— Ён у мяне вельмі добры і заўсёды мяне пашкадуе, калі пачынаю плакаць. Бывае і такое, што я плачу за двойкі свайго сынулі, які ў чарговы раз забывае дома ці дзённік, ці сшытак. Яшчэ ён душа-хлопчык. Я яму часта даю грошы, якія ён са сваімі сябрамі заўсёды растраціць на атракцыёнах, ці набярэ булачак з марожаным для ўсіх сваіх сяброў.

**— Як ставяцца да яго настаўнікі?**

— Яны заўсёды кажуць: «Твая маці заслужыла ўсё сваімі рукамі, і ты павінен зрабіць тое ж самае, бо ты яе сын!» Вельмі рада, калі яму ўдзяляюць больш увагі.

**— А чым займаецца ваша маці — Вера Міхайлаўна?**

— Народнай творчасцю. Яна жыве асобна ад нас. У яе ёсць свая кватэра, дзе яна робіць усялякія крыжыкі, знакі задыяка і потым прадае іх. Пастаянна ездзіць у Італію са сваімі сябрамі.

**— Гэта яна прывяла вас у аэробіку?**

— Так. І зараз я майстар спорту па спартыўнай гімнастыцы. А пачынала я займацца аэробікай з сямі гадоў. Потым я паступіла ў Акадэмію фізвыхавання, заўсёды хацелася быць трэнерам, і таму старалася вучыцца добра. Пасля мяне «размеркавалі» ў дзіцячую спартыўную школу №3, дзе я працавала пяць гадоў. Выпадкова, знаходзячыся за мяжой, убачыла спартыўны клуб і вырашыла зрабіць такі ў Мінску. За тры месяцы я стварыла свой клуб у 1993 годзе, і вось сталі мы працаваць. Нядаўна справілі яго пяцігоддзе.

**— А ў фінансавым сэнсе не было цяжка?**

— Усё пачыналася з аднаго магнітафона і адной залы. Ніякіх фінансаў у нас не было — усё рабілася на «голым» энтузіязме. З цягам часу мы арандавалі залу, купілі трэнажоры. З'явілася тэлебачанне, і нам раптам намнога стала лягчэй. Лічу, што здароўе — самае галоўнае ў жыцці людзей.

**— Як вам удаецца быць заўсёды такой прыгожай і абаяльнай?**

— Напэўна, калі б я займалася раскопкамі траншэй, ці стаяла за станком, — такога б не было. Я вельмі шчаслівы чалавек, што займаюся любімай справай. На працу я іду, як на свята, і мне вельмі прыемна, калі мне робяць кампліменты, што я выглядаю на дзесяць гадоў маладзей.

**— Што вы любіце рабіць у вольны час?**

— Вельмі люблю чытаць паэзію, вершы Цвятаевай і Мандэльштама. Спяваю рускія рамансы, іграю на гітары, пішу музыку і вершы. І калі да нас прыходзяць госці, з вялікай радасцю ім спяваю.

**— Ці ёсць у вас сямейныя звычаі?**

— Абавязкова спраўляць дзень нараджэння свайго сына ў шумнай кампаніі. Заўсёды выязджаем на прыроду з усімі яго сябрамі, каб кожны раз памятаў гэты



дзень. Вельмі люблю свайго сына і беларускі народ і хачу даказаць, што жанчына ў сям'і — самая галоўная.

**— А што вы можаце пажадаць нашым жанчынам?**

— Мужнасці і сілы. І, нягледзячы на дрэннае фінансавае становішча ў краіне, хачу сказаць: «Усё пройдзе! І смутак і радасць!» Жанчына — гэта залатое зярнятка, якое нараджае дзяцей, глядзіць сям'ю, і, калі ёй будуць рабіць больш кампліментаў, у сям'і заўсёды будзе рай.

**— Шчасця вашаму дому! І дзякуй за інтэрв'ю!**

**Вольга РАМАНЮК.**

**Напэўна, цяжка знайсці чалавека, якога калі-небудзь не напалохаў ці не пакусаў сабака, наш, як мы кажам, сябар. Непрыемнае гэта адчуванне, калі на цябе знянацку з-за вугла дома ці з-пад куста выскачыць дварняк ці бультэр'ер з ашчэранай пашчай ды рване цябе за адно месца. Ці не падумаеш тады: сабака хто — сябар ці вораг?**

*ЖЫЦЦЁ САБАЧАЕ*

# КАМУ — СЯБРЫ, А КАМУ — «ТЭРАРЫСТЫ»

ПЫТАННЕ далёка не рытарычнае, бо вось афіцыйныя даныя, якія прадставіла ў Гомельскую абласную пракуратуру служба абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Сёлета за шэсць месяцаў сабакі «прычынілі 1661 грамадзяніну цялесныя пашкоджанні», а летась такіх выпадкаў было зарэгістравана 3231. Паўтараю: гэта толькі па Гомельшчыне. Многа ці мала — пазнаецца ў параўнанні. А яно такое: у вобласці зарэгістравана на сённяшні дзень 6330 сабак. Зробім пэўныя арыфметычныя дзеянні і што ж атрымаем? А тое, што кожны другі сябар чалавека крыўдзіў яго — кусаў, ірваў лапамі, наносіў цялесныя пашкоджанні. Чым не своеасаблівы сабачы тэрарызм?

Напрыклад, у чэрвені на двары адной са школ Мазыра аўчарка грамадзянкі Л. Рабой, якая выгульвала яе, напала на дзевяцігадовага хлапчука і так пакусала яго, што адбылося «кароткачасовае расстройства здароўя» (так сказана ў пратаколе) і ён пачаў заікацца. У тым жа самым месяцы сабаку грамадзяніна І. Патупчыка чамусьці не спадабалася язда на веласіпедзе таксама дзевяцігадовага Віталіка Іўкіна па вуліцы садовага таварыства «Расінка», што ў Светлагорскім раёне, і ён у магутным скачку збіў яго на зямлю і пакусаў твар і перадплечча. Добра, што гэтага раз'юшанага «сябра» адагналі суседзі.

А вось яшчэ адзін абуральны прыклад выгульвання сабак. У лютым гамяльчанін А. Сычоў, прыняўшы «на грудзі» ладную дозу спіртнога, вывеў падыхаць свежым паветрам каўказскую аўчарку. Ну, прадстаўніка той самай пароды сабак, якіх горцы трымаюць для аховы статкаў хатняй жывёлы на пашах і якія паспяхова абараняюць іх ад ваўкоў. Адчуўшы поўную свабоду (аўчарка была без павадка і намордніка), сабака вырашыў паказаць гаспадару свае байцоўскія якасці і таму без дай прычыны накінуўся адразу на мужчыну і жанчыну, якія праходзілі міма, і пакусаў іх. Сычоў быў аштрафаваны на адну мінімальную зарплату і, напэўна, пакрыўдзіўся на грамадскасць. Таму зноў выпіў і зноў вывеў на прагулку сваю чатырохногую радасць без павадка і намордніка. Аўчарка зноў прадэманстравала сваю злосную сілу, пакусаўшы грамадзяніна В. Нажэева. На гэты раз Сычову давялося ўплаціць штраф у памеры ўжо дзесяці «мінімалак».

Тут чытач можа сказаць: штрафы ідуць на карысць дзяржавы, а што ж пакусаным? Ці кампенсуецца той маральны і матэрыяльны ўрон, якія яны церпяць ад сабак-«тэрарыстаў» і іх гаспадароў? Кампенсуецца, калі яны звяртаюцца ў суд. Але ўся справа ў тым, што людзі ў абсалютнай большасці не ведаюць аб гэтым сваім праве, і з памянёных ужо вышэй пакусаных іскі падалі толькі... пяць чалавек. Сярод іх жыхарка Буда-Кашалёва Фаустава, чыя дачка правяла ў хірургічным аддзяленні бальніцы 14 дзён, і гамяльчанка Бяспалая, якая лячылася ў бальніцы ад укусаў сабакі грамадзяніна Л. Круковіча ажно сорак дзён. Яны, згодна з рашэннямі судоў, атрымалі кампенсацыю. У двух жа астатніх выпадках істцы адмовіліся ад сваіх патрабаванняў, бо дамовіліся з гаспадарамі сабак на так званай суседскай аснове, і адзін іск яшчэ не разгледжаны.

Немалаважная дэталь: сёлета ў параўнанні з мінулым годам на Гомельшчыне (мяркую, што так і ў рэспубліцы ў цэлым) павялічылася колькасць нападаў на людзей такіх парод сабак, як аўчарка, баксёр, дог і інш., якія надзелены вялікай фізічнай сілай і ўяўляюць пэўную небяспеку для чалавека, калі адсутнічае кантроль за імі з боку гаспадароў. А той кантроль (або парадак і ўмовы ўтрымання сабак), між іншым, вызначаны адпаведнымі правіламі, якія зацвярджаюць гаррайвыканкамы і якія, дарэчы, нярэдка не выконваюцца ні ўладальнікамі чатырохногіх, ні адпаведнымі службамі выканаўчых камітэтаў. Прывяду канкрэтныя прыклады.

Чацвёртага лютага Гомельскі гарвыканкам зацвердзіў правілы ўтрымання хатніх жывёл у абласным цэнтры і кантроль за імі ўсклаў на аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі, адміністрацыі раёнаў і райаддзелы ўнутраных спраў. Здаецца, усё зразумела: пасля такога цыркуляра павінен быць поўны парадак. Аднак як бадзяліся па горадзе ў адзіночку і цэлымі зграямі незарэгістраваныя сабакі, так і зараз бадзяюцца. Больш таго, уладальнікі іх не звяртаюць аніякай увагі на правілы выгульвання сваіх падапечных. Так, у парку каля пешаходнага моста цераз Сож на бачным месцы вісіць шыльда, якая папярэджвае, што выгульваць сабак тут, у месцы адпачынку людзей, строга забаронена, а парушальнікаў чакае штраф. І што ж? Толькі лянівы, як гаворыцца, не водзіць сюды сваіх рэксаў і гамільтонаў, бо напісанае на той шыльдзе не што іншае, як фількава грамата.

Мяркую, што тут пытанне могуць задаць ужо ўладальнікі сабак: а дзе ж іх выгульваць? У двары нашага шматпавярховіка, напрыклад, яны так засмецілі сваімі экскрэментамі тэрыторыю, што туды нельга вывесці на прагулку дзіця. Сабаку — можна і трэба, а дзіця — не. Бо небяспечна з усіх пунктаў погляду. Між іншым, ці так толькі ў нашым доме? Не. А чаму? Аказваецца, у вобласці на сённяшні дзень абсталявана ўсяго... 11 пляцовак для выгулу сабак. Згодна з прынятымі выканаўчымі камітэтамі рашэннямі. Прычым пяць з іх — у Рэчыцы, чатыры — у Рагачове і па адной — у Савецкім і Чыгуначным раёнах абласнога цэнтра.

Далей. Вярнуся да лічбы 6330, якая была прыведзена ў пачатку артыкула, — столькі маецца сабак на Гомельшчыне. Згодна з афіцыйнай статыстыкай. Але ці верыць ёй, калі, напрыклад, у Чыгуначным раёне Гомеля іх зарэгістравана 1699, а ў Савецкім, самым вялікім па колькасці насельніцтва, ажно ў шаснаццаць разоў меней? Думаецца, справа тут у тым, што проста жыллёва-камунальная гаспадарка раёна не правяла належнай работы. Гэтак жа, як і ў Брагінскім, Веткаўскім, Жыткавіцкім, Лельчыцкім, Нараўлянскім, Акцябрскім і яшчэ дзевяці раёнах вобласці, дзе наогул адсутнічаюць звесткі аб наяўнасці сабак. Ці ж не парадокс, скажам, тое, што з пачатку мінулага года 99 жыхароў, у тым ліку 43 дзіцяці, населеных пунктаў Жыткавіцкага раёна былі пакусаныя... неіснуючымі (згодна з афіцыйнай статыстыкай) бобікамі? Або возьмем Рэчыцкі раён. Там за гэты ж час ад сабак пацярпелі 629 чалавек, а вось пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях на іх уладальнікаў не складаліся. А як не здзіўляцца тым абставінам, што ў Лоеўскім і Акцябрскім раёнах рашэнні па зацвярджэнню правілаў утрымання сабак, катоў і іншых хатніх жывёл і збору падаткаў з іх уладальнікаў выканкамамі наогул не прымаліся?

У сваіх меркаваннях мы не прэтэндуем на ісціну ў нейкай апошняй інстанцыі, аднак заўважым, што ўказаная «сабачая праблема», на наш погляд, у пэўнай ступені ўшчамляе правы грамадзян. І таму ці не было б мэтазгодна, каб, нарэшце, былі вызначаны канкрэтныя і абсталяваныя месцы (пляцоўкі) і для выгулу сабак па-за тэрыторыямі школ, дзіцячых садкоў і іншых грамадскіх месцаў? Далей. Як правіла, уладальнікамі сабак, асабліва пародзістых і ў гарадах, з'яўляюцца людзі забяспечаныя, а адміністрацыйныя камісіі гаррайвыканкамаў абмяжоўваюцца ў адносінах да парушальнікаў гэтага тыпу штрафамі ў мінімальных памерах. Ці не час ужо да іх падыходзіць больш жорстка, а пры паўторным парушэнні правілаў утрымання сабак пазбаўляць іх гаспадароў права мець чатырохногага сябра? Неабходна ўжо як след правесці і перарэгістрацыю сабак па месцы жыхарства іх гаспадароў з уручэннем спецыяльнага рэгістрацыйнага значка і пасведчання, што будзе патрэбна як для ўплаты мясцовага падатку, так і для ажыццяўлення належнага ветэрынарнага нагляду за сабакамі. Было б правільным таксама спаганяць з парушальнікаў — гаспадароў сабак урон за лячэнне пакусаных на карысць тых медыцынскіх аб'яднанняў, дзе апошнія лячыліся, а аплату бальнічных лісткоў рабіць не ўстановам, дзе пакусаныя працуюць, а ўладальнікам сабак. Бо ў народзе правільна кажуць: любіш катацца — любі і санкачкі вазіць.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# СЭРЦАМ ПРЫРОС ДА БЕЛАРУСІ

Вядомаму беларускаму славісту, прафесару, доктару філалагічных і педагагічных навук Адаму Яўгенавічу Супруну сёння спаўняецца 70 гадоў. Нарадзіўшыся ў Палтаве, стаўшы на ногі як вучоны ў Кіргізіі, ён сэрцам прырос да Беларусі. Вось ужо трыццаць два гады ён узначальвае кафедру тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе стварыў сваю навуковую школу, падрыхтаваў некалькі дзесяткаў кандыдатаў і дактароў навук. А. Супрун — аўтар больш як 500 друкаваных прац, сярод якіх каля 30 манаграфій. Працуючы ў духу Шаўчэнкавага запавету — «Каб усе славяне сталі добрымі братамі, сынамі праўды й волі», — вучоны дбае пра гарманічнае развіццё ўсіх славянскіх моў, у тым ліку і беларускай. Варты захаплення ягоны клопат пра навуковае ажыўленне асіміляванай яшчэ ў XVIII стагоддзі своеасаблівай палабскай мовы, не абышоў ён увагай мовы лужыцкіх сербаў, кашубаў, русінаў... Прычым да кожнай з моў А. Супрун ставіцца як да найбольшай нацыянальнай, а тым самым — і агульначалавечай каштоўнасці, у якой увасоблены гісторыя, псіхалогія, культура, урэшце — дух нацыі, яе душа. Зрэшты, пра ўсё гэта мне хочацца сказаць вершаванымі радкамі...

*Зеленазвонны гай славянскіх моў*
*Звініць нязмоўкла-велічна над намі,*
*Засведчыўшы сваяцтва ўсіх вымоў*
*І кронамі і каранямі.*
*Берёзы — brzozy — brezy не маўчаць.*
*У тополя з калиною — гамонка.*
*І дзесьці на узлессі — ледзь чуваць —*
*Свой голас падае й мая сасонка.*
*І ходзіць паміж дрэў сівы ляснік,*
*Мудрэц тутэйшы, чарадзей вядомы.*
*Глядзіць, каб хто з насельнікаў не знік,*
*Не ссох, не звяў, а чуў сябе як дома.*
*Над гаем часта носяцца вятры,*
*Сукі ламаюць і камлі калечаць,*
*Загадваюць: «Замры!»,*
*Крычаць: «Памры!».*
*І гай памёр бы, каб не дактары —*
*Рупліўцы-леснікі, што раны лечаць.*

*Ляснік наш знае тайны птушак, дрэў,*
*Бусла маркоту і сасны трывогу.*
*І хоць ён з часам крыху пастарэў,*
*Ды ногі зноўку просяцца ў дарогу.*
*У веснім сугалоссі дрэў і траў*
*Не ўсё пагодна, часам — і імгліста.*
*Мудрэц, ён жа жыццё сваё спазнаў*
*Гармонію шматстайнага адзінства.*
*Ён, чарадзей, на згубу шле праклён,*
*Чаруе ад хваробаў і калецтва.*
*Ён ведае: загіне дуб ці клён —*
*І абяднее гай.*
*І чалавецтва.*
*Таму і ходзіць сярод дрэў ляснік,*
*Мудрэц вядомы, чарадзей тутэйшы.*
*І для яго — як гэты свет вялік —*
*Рознагалосы гай — найпрыгажэйшы!*

**Вячаслаў РАГОЙША.**

*ЗДАРЭННІ*

# АЎТАМАБІЛЬ У АГНІ

**Незразумелае здарэнне адбылося ноччу ў Лепелі: а палове трэцяй раптоўна загарэўся аўтамабіль «ЗІЛ-130», у якім, як выявілася пазней, знаходзіліся людзі.**

Машына была значна пашкоджана агнём, таму спачатку здавалася немагчымым высветліць асобы дзвюх ахвяр, ды і прычына пажару, паводле апошняй інфармацыі, не ўстаноўлена. Што датычыцца асоб загінуўшых, то імі аказаліся грамадзяне Латвіі — 75-гадовы прыватны прадпрымальнік і яго шафёр. Дарэчы, трэцяму міжвольнаму ўдзельніку трагедыі ўдалося выратавацца. Прычыны здарэння высвятляюцца.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# Апошнія штрыхі да зімовага пейзажу

**Зіма яшчэ ў пачатку гэтага месяца паспрабавала праэкзаменаваць на прадмет гатоўнасці да ацяпляльнага сезона ўвесь народнагаспадарчы комплекс, а сельскую гаспадарку — у першую чаргу. Бо там цяпер спраў і клопатаў хапае: не выкапаны караняплоды, не да канца вырашаны справы і з ільнотрастой. А колькі пытанняў з арганізацыяй стойлавага ўтрымання жывёлы... Пэўны груз гэтых праблем ляжыць на сельскіх энергетыках, якія ў значнай ступені адказваюць за работу энергетычнага абсталявання, цепла- і электразабеспячэння фермаў і жылых дамоў хлебаробаў.**

Менавіта гэтай тэме і было прысвечана чарговае пасяджэнне савета РМП «Белсельгасэнерга», якое праходзіла ў двух раёнах — Шчучынскім і Мастоўскім. Удзельнікі гэтага пашыранага пасяджэння, на якім прысутнічалі кіраўнікі абласных і некаторых раённых падраздзяленняў сістэмы, прадстаўнікі мясцовых органаў улады, пабывалі ў гаспадарках, дзе азнаёміліся са станам спраў па гатоўнасці энергетычнага абсталявання да работы ў зімовых умовах. Як адзначыў у сваім дакладзе генеральны дырэктар «Белсельгасэнерга» Пётр Харкевіч, у цэлым стан гатоўнасці энергетычнай службы сёлета значна лепшы, чым у папярэднія гады. Вядома ж, трэба ўнесці сякія-такія карэктывы, зрабіць свайго роду апошнія штрыхі, каб да 1 лістапада смела заявіць аб поўнай гатоўнасці да правядзення зімоўкі.

Паралельна абмяркоўвалася і такое вельмі актуальнае пытанне, як укараненне энергазберагальных тэхналогій у сельскай гаспадарцы. Удзельнікі пасяджэння пабывалі непасрэдна на аб'ектах, дзе ўвачавідкі пераканаліся ў тым, які каласальны эфект дае прымяненне энергазберагальных тэхналогій. У прыватнасці, зацікавіў метад пнеўмаачысткі і гідрапрамыўкі катлоў і ўсёй ацяпляльнай сістэмы. З асаблівай гордасцю галоўны інжынер Шчучынскага райаграпрамэнерга Анатоль Рымко прадэманстраваў устаноўку па гідрапнеўматычнай прамыўцы ўсёй ацяпляльнай сістэмы, уключаючы і батарэі ацяплення, якія, дарэчы, раней ніхто не прамываў. Гэта ўстаноўка сканструявана непасрэдна на прадпрыемстве і сабрана мясцовымі ўмельцамі з розных адходаў, так што кошт яе адносна невялікі. Затое з яе дапамогай удалося прачысціць некалькі сістэм ацяплення ў школах і ў вытворчых памяшканнях. У выніку намнога палепшылася цеплааддача сістэмы, вырас каэфіцыент карыснага дзеяння катлоў. А перавод кацельняў з мазуты і вугалю на мясцовае паліва, які пачалі ажыццяўляць сельскія энергетыкі раёна, дасць магчымасць зэканоміць многія мільярды рублёў.

На свінакомплексе калгаса «Дубна» Мастоўскага раёна ўсіх зацікавіла падлога падагрэву для парасят, мантаж якой у поўным разгары. У выніку ўтрая зменшацца выдаткі электраэнергіі ў параўнанні з традыцыйным лямпавым ацяпленнем. Калі гэта новаўвядзенне распаўсюдзіць на іншыя свінагадоўчыя комплексы, то эфект можа быць даволі значны.

А яшчэ гаварылі пра праблемы так званай малой энергетыкі. У стадыі распрацоўкі праект будаўніцтва ГЭС магутнасцю 250 кілават. А ў суседнім, Ваўкавыскім раёне ўжо працуе такая ГЭС магутнасцю 500 кілават. Яе аднавілі некалькі гадоў таму і цяпер яна выпрацоўвае штогод больш як мільён кілават-гадзін вельмі таннай электраэнергіі. Словам, удзельнікі выязнога пасяджэння савета «Белсельгасэнерга» ўвачавідкі пераканаліся ў тым, што за энергазберагальнымі тэхналогіямі — будучыня.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

# ШАХМАТЫ

***Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА***

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 37**

**Б. Барнс** (Англія)



**Белыя:** Кре1, Фh5, Ла1, Лf4, Cd2, Cf3, Ка8, Ке2, пп: b3, b4, b7, c6 (12). **Чорныя:** Крb5, Ле5, Са6, Cb8, Kh1, Kh6; пп: b6, e6 (8). **Мат за 2 хады.**

**Заданне № 38**

**В. Мельнічэнка** (Украіна)



**Белыя**: Кра2, Фd5, Cf1, Kh3; пп: d2, f4 (6). **Чорныя**: Крg4, Cрh6, пп: c4, f2, h4 (5). **Мат за 3 хады.**

**ЗАПРАШАЕМ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ!**

Юбілейныя конкурсы складання «Магадан-60».

2 #, Н # 2 → Россия, 685000, г. Магадан, ул. Пролетарская, 11, редакция газеты «Магаданская правда», шахматы («Магадан-60»).

3 #, Н # 3 → Россия, 685000, г. Магадан, ул. К. Маркса, 40, редакция газеты «Вечерний Магадан», шахматы («Магадан-60»).

4 #, Н # 4 → Россия, 685000, г. Магадан, пл. Горького, 9, ОАО «МАОБТИ», редакция газеты «Контакт», шахматы.

Эцюды на выйгрыш Россия, 685000, г. Магадан, ул. Пролетарская, 11, редакция газеты «Магаданская правда», шахматы.

Кампазіцыі ў 2 экз. (не больш трох у кожным раздзеле) дасылаць да 15.IV.1999 г. на адрас рэдакцый.

***

Санкт-Пецярбургская шахматная федэрацыя і часопіс «Шахматный Петербург» аб'яўляюць міжнародны мемарыяльны конкурс складання эцюдаў, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння В. А. Чэхавера.

Эцюды дасылайце да 30 лістапада 1998 г. на адрас: шахматный клуб «На Петроградской стороне», Малый пр., П.С., д. 84/86, Санкт-Пецярбург, 197136, з паметкай на канверце «В. Чэхавер-90».

**ШАХМАТНАЯ НАВІНКА**

У Маскве ў бібліятэцы «Уральского проблемиста» выходзіць кніга Я. Уладзімірава, А. Грына і А. Селіванава «Творцы шахматной красоты», у якой сабраны 190 задач, апублікаваных вядучымі расійскімі праблемістамі... у 1900—1941 гг. Кошт кнігі з перасылкай — 3$ ЗША.

Перавод дасылаць на адрас: 620100, Екацярынбург, вул. Ткачоў, д. 8, кв. 10, Жалтаножка В. І.

Квітанцыю аб уплаце дасылаць заснавальніку часопіса на адрас: 123222, Масква, Міціна-7, вул. Міцінская, кв. 27, корп. 1, кв. 515, Селіванаву А. В.

**ЮБІЛЕЙНЫ КОНКУРС ВАЦЛАВА ГЕБЕЛЬТА**

Рэспубліканская камісія па шахматнай кампазіцыі прадоўжыла на месяц прысылку трохходовых задач на свабодную тэму (суддзя — юбіляр) і задач на кааператыўны мат за 3 хады (суддзя — Ю. Гардыян з Адэсы), прысвечаны вядомаму міжнароднаму майстру Вацлаву Гебельту (Ліда).

Творы на дыяграмах з поўным рашэннем у двух экземплярах дасылайце на адрас рэдакцыі «Звязды».

На конкурс мы ўжо атрымалі творы, якія даслалі наступныя ўдзельнікі: А. Бадзюкоў (Круглянскі раён), В. Волчак (Лідскі раён), А. Варыцкі (Брэст), С. Дземідзюк (Брэст), В. Жылко (Лунінец), В. Жук (Брэст), В. Іваноў (Мінск), У. Кажакін (Магадан), А. Міронаў (Магілёў), А. Мышкавец (Ганцавічы), В. Равіно (Мінск).

